PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 3 (2071) ГОД XLI БЕЛАСТОК 21 СТУДЗЕНЯ 1996 г. ЦАНА 70 грошаў (7000 ст. зл.)



*Сябры.* Фота Міры Лукшы

## СЕЦЭСІЯ

Выхад ЗБМу з Беларускага Саюза „старыя” (чытай: трыццацігодкі) успрынялі спакойна, а нават з нейкай палёгкай. Абрыдлі... Невядома чаго хочуць, а карысці з іх ніякай. Як выбары, то яны апалітычныя. Да таго да старэйшых кідаюцца з кулакамі.

Усё ж такі прыкра. Адчуваеш сябе вінаватым, хаця невядома чаму. У чым справа? Адказаць на гэтае пытанне дапамог мне артыкул нямецкага палітолага Клаўса Легеві (Leggewie) „Пакаленне ’89 альбо Што мае супольнага падзенне муру з пакаленнем X” („Deutschland/Niemcy”, н-р 5, лістапад 1995 г.).

Аказваецца, маем дачыненне з новым пакаленнем. Яно так адметнае, як калісь славутае пакаленне 1968 года. Галоўная прыкмета новага пакалення — гэта апалітычнасць, калі разумець яе як неахвоту ўступаць у партыі, арганізацыі, прафсаюзы і г.д. З другога боку, гэтую моладзь можна прыцягнуць да рознага роду акцыяў, пачынаючы з турніраў вулічнага футбола, на вялікіх экалагічных акцыях „Грынпісу” канчаючы. На польскім панадворку маем прыклад Вялікага аркестра святочнай дапамогі Юрка Оўсяка.

Падобныя мабілізацыйныя працэсы абмінаюць нацыянальную дзяржаву. Ні пры чым тут таксама інтэрнацыяналізм пакалення 1968 г., які ў самай сваёй сутнасці адносіўся да нацыянальнай дзяржавы. Сёння маем дачыненне з дыялектыкай глабалізацыі і трыбалізацыі (ад англьскага слова: *tribe* — племя), якая падкопвае нацыянальныя культуры. З аднаго боку культурныя працэсы ахопліваюць усю моладзь зямнога шара, з другога боку — ствараюцца групы (банды) аднагодкаў, накшталт плямёнаў, якія карыстаюцца адметнымі знакамі. Іх узнікненне выклікане разлажэннем грамадскіх (перш за ўсё сямейных) сувязяў. Прыгадаю, што здарылася ў Бельску: удзельнікі „Бардаўскай восені” апынуліся на тэрыторыі маладзёжнай шайкі, якая мусіла паказаць, хто тут пан.

Вывады на будучыню, якія робіць Легеві, наступныя: узрост будзе адыгрываць штораз большую ролю ў грамадскім жыцці. Розніцы ва ўзросце стануць лініямі падзелаў і канфліктаў, а прорва між маладым пакаленнем, а сярэднім і старэйшым будзе расці. Будучыня традыцыйнай еўрапейскай палітычнай культуры вельмі няпэўная.

Ад сябе дабаўлю, што культурныя з’явы, якія пагражаюць нацыянальным традыцыям, могуць мець фатальныя наступствы для такой слабой нацыі, як беларуская. Вельмі таксама насцярожвае мяне тое, што хаваецца пад паняццем „індывідуалізаваны рух”, якім карыстаецца Легеві, апісваючы маладзёжныя акцыі.

„Індывідуалізаваны рух” няўмольна асацыюецца мне з натоўпам, якім варочаюць як скацінай.

У святле разважанняў прафесара Легеві канфлікт ЗБМаўцаў са старэйшымі здаецца непазбежным. Зразумелай робіцца таксама няўдаласць ЗБМу і фрустрацыя яго дзеячаў. Усё як быццам закадзіравана ў самой ідэі яго існавання: ЗБМ — гэта нацыянальная арганізацыя пакалення, якое ў сваёй большасці не прызнае ні нацыі, ні арганізацыі. Усё нібыта ясна, але нічуць мне ад гэтага не лягчэй.

**Алег Латышонак**

## МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Polityka jest grą. Nie zawsze grą fair play. Politycy stosują różne strategie, które mają im zapewnić zwycięstwo.*
*Gazeta Wyborcza, nr 299 (1995 r.)*

Не ведалі пра гэта беларускія палітыкі, ідучы на кожныя чарговыя выбары пасля 1989 г.

* * *

*Nie ma w historii demokratycznego świata podobnej sytuacji do tej, co zdarzyła się w Polsce. Jesteśmy bowiem w kraju, gdzie odchodzący prezydent ma problemy z Urzędem Skarbowym, prezydent obejmujący Urząd ma kłopoty z mówieniem prawdy, a Prezes Rady Ministrów jest oskarżony o to, że był agentem obcego wywiadu. Świadczy to o fatalnej kondycji struktur państwa, buduje katastrofalny obraz Polski za granicą i przekreśla wszelkie szanse realizacji naszych aspiracji na wstąpienie do NATO. Skoro sprawę rozpoznały polskie służby specjalne, to równie dobrze mogły ją znać służby wywiadowcze Zachodu. Jeżeli tak było, to Polska niezależnie od obecnego kryzysu nie miała żadnych szans na przyjęcie do NATO,* — сказаў пасол Артур Смулка.
*Gazeta Współczesna, nr 249 (1995 r.)*

* * *

*Rządy solidarnościowe nie legalizowały rzeczywistości. Pławiono się w postulatach pod własnym adresem, póki ludzie nie zaczęli wychodzić na ulicę. Nasi liberałowie przeoczyli ważną wypowiedź Miltona Friedmana: że po 6—9 miesiącach każdy rząd natrafi na tyranię biurokracji i przyzwyczajeń. Jeżeli szybko nie przeprowadza się zmian, rosną frustracje po obu stronach grubej kreski. Logiczne więc było to, że nasza niekonsekwentna kunktatorska rewolucja szybko przeszła od zmarnowanej jagiellońskiej koniunktury do kontrreformacji i czasów saskich. Po drodze mieliśmy warcholstwo intelektualistów, robotników, chłopów, pochwałę liberum veto i rokoszy. Polska historia w pigułce.*
*Polityka, nr 51 (1995 r.)*

* * *

*Ewangelia nie zdołała nas wewnętrznie przemienić: Polacy są narodem chrześcijańskim jedynie statystycznie. Trudno negować fakt, że dla wielu ludzi chrześcijaństwo staje się bardziej zwyczajem niż religią,* — сказаў мітрапаліт гнезненскі, архіепіскап Генрык Мушынскі.
*Wprost, nr 52 (1995 r.)*

* * *

*Na świecie nie jest wcale ewenementem wikłanie poważnych polityków w zależności od obcych wywiadów. Tyle, że najczęściej chodzi o państwa Trzeciego Świata: Sudan, Czad, Haiti, Egipt, Jordanię, Panamę czy Liban. Nie dziwi, że na liście płac CIA znajdowali się tacy politycy, jak król Jordanii Husajn, prezydent Panamy Noriega czy prezydent Haiti Jean Aristide. Wszyscy oni chcieli przy pomocy Amerykanów osiągnąć różne cele polityki wewnętrznej, rozprawić się z opozycją. Niestety, są to prawie wyłącznie państwa o bardzo iluzorycznej suwerenności, bo do tego prowadzi flirtowanie polityczych elit z obcymi mocodawcami. We współczesnej Europie właściwie tylko Aleksander Łukaszenko, prezydent Białorusi dobrowolnie godzi się być wasalem ościennego mocarstwa. Jedno ze źródeł wywiadu twierdzi, że sprawa Oleksego została ujawniona przez stronę rosyjską jako przestroga dla Zachodu przed nazbyt pochopnym włączaniem do NATO krajów Europy Środkowej i Wschodniej.*
*Wprost, nr 52 (1995 r.)*

* * *

*Gdyby nie było Polski, miałbym pewnie innego ojca. Polska jest moją drugą ojczyzną. Mój ojciec znał język rosyjski, polski i francuski. Francuski dlatego, że studiował w Sorbonie. Polska inteligencja przed wojną miała wrogi stosunek do Rosji, ale do Paryża mogła jeździć bez przeszkód i tam właśnie pojechał uczyć się mój ojciec. Ja do Polski chciałbym przyjechać z Biblią w ręku,* — сказаў лідэр расейскіх шавіністаў Уладзімір Жырыноўскі.
*Wprost, nr 52 (1995 r.)*

Сталін ніколі не прызнаўся, што яго татка называўся граф Пржавальскі.

* * *

*Kiedyś większość cudzoziemskich prostytutek w Niemczech to były Polki. Teraz jest mniej. Największe wzięcie mają prostytutki niemieckie. Wiele z nich, a także wielu alfonsów, to są byli sportowcy z NRD, którzy w nowej rzeczywistości nie umieli się odnaleźć. Prostytutki niemieckie mają większe wzięcie od zagranicznych, bo są czyste, zadbane i szczupłe. Największe wzięcie wśród zagranicznych mają Rosjanki. Niemieckiemu mężczyźnie miło jest mieć rosyjską kobietę, często lekarkę lub inżyniera. To musi poprawić nastrój.*
*Polityka, nr 52 (1995 r.)*

Як відаць, немцы памятаюць яшчэ ўваход савецкай арміі ў Берлін у 1945 г.

* * *

*Nie wszyscy mężczyźni są przestępcami, ale prawie wszyscy przestępcy są mężczyznami,* — заяўляе феміністычны часопіс
*Twój Styl, nr 1 (1996 r.)*

* * *

*W Grodnie języka polskiego uczą rodowici Polacy, ale również Białorusini i Rosjanie. Białorusini dzisiaj odbierają nas bardzo dobrze. Między nami istnieje już takie zrozumienie, że nie może być dobrobytu dla Białorusina, jak nie będzie go dla Polaka i odwrotnie. Myśmy tutaj nie przyjechali. My tutaj od wieków mieszkamy,* — сказаў дзеяч Саюза палякаў на Беларусі Юзэф Лучнік.
*Gazeta Współczesna, nr 251 (1995 r.)*

Мы таксама не прыехалі аднекуль на Беласточчыну. Але калі будзем маглі сказаць тое пра тутэйшых палякаў, што сказаў Лучнік пра беларусаў? Калі будзем „odbierani bardzo dobrze"?

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Брацтва св. Мікалая** супольна з **Брацтвам праваслаўнай моладзі** арганізавалі Куццю для адзінокіх. У святліцы Святамікалаеўскага прыхода з самотнымі сустрэўся архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**. Падрыхтаваць калядную вячэру дапамог **Мікалай Сычэўскі**, уласнік сталовай „Nicola", вядомы з харытатыўнай дзейнасці.

Напярэдадні Куцці архіепіскап Сава наведаў Следчы арышт у Беластоку, дзе падзяліўся просвірай з праваслаўнымі зняволенымі. У беластоцкай турме пакаранне адбываюць таксама грамадзяне Беларусі і Украіны. У каляднай сустрэчы прымаў удзел **Міхаіл Слямнёў** — генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку.

У беластоцкім друку з'явіліся інфармацыі, што быццам бы прэзідэнт Беластока звярнуўся да ваяводы з прапановай дэкамуналізаваць будынак на вул. Варшаўскай 11, у якім знаходзіцца сядзіба **ГП БГКТ**. Ваяводская ўправа, таксама праз пасрэдніцтва газет, паведаміла, што пісьмо ў справе перадачы згаданага будынка дзяржаўнай адміністрацыі да гэтай пары ў іх установу не паступіла. Статус будынка ГП БГКТ далей застаецца нявырашаны.

Наглядальная рада Польскага тэлебачання лічыць, што пакуль што няма дастатковых фінансавых сродкаў для стварэння тэлецэнтра ў Беластоку. Адмоўнае стаўленне гэтай рады замаруджвае работу па стварэнні чарговага рэгіянальнага тэлевізійнага цэнтра. Без яе згоды міністр фінансаў, які з'яўляецца ўласнікам публічнага тэлебачання, не можа ўвесці змяненняў у статут TVP і дазволіць пачаць стварэнне тэлецэнтра. Старшыня Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання **Балеслаў Сулік** паінфармаваў, што падчас сустрэчы з членамі Наглядальнай рады КРРіТ падтрымала свае жаданне накот стварэння ў Беластоку тэлевізійнага цэнтра і выявіла волю зрабіць усё дзеля здзяйснення гэтай задумы.

На думку праф. **Уладзіслава Сэрчыка**, прарэктара Варшаўскага універсітэта па справах Філіяла ў Беластоку, калі тэмпы навуковага развіцця Філіяла будуць стрыманы і не з'явяцца перашкоды адміністрацыйнага характару, то ў кастрычніку 1997 г. інаўгурацыя новага акадэмічнага года можа адбыцца ўжо ў самастойным універсітэце. У вышэйшай навучальнай установе павінна працаваць сама меней 60 самастойных навуковых супрацоўнікаў, у тым ліку 30 намінальных прафесараў. Павінна ў ёй быць прынамсі 6 магістэрскіх напрамкаў. У Беластоцкім Філіяле ВУ цяпер працуе амаль 100 самастойных навуковых супрацоўнікаў, у якіх ліку знаходзяцца 33 намінальныя прафесары, а на 12 стацыянарных аддзяленнях вучыцца больш за 10 тысяч студэнтаў.

З прычыны нястачы фінансавых сродкаў немагчымым будзе павелічэнне **Белавежскага нацыянальнага парку** на амаль 40 тысяч гектараў. Аб такой пазіцыі Рады Міністраў паінфармаваў міністр аховы асяроддзя **Станіслаў Жаліхоўскі**. Павелічэнне БПН не можа таксама пагоршыць фінансавай сітуацыі гмін, лічыць міністр. У такой сітуацыі дзяржаўныя ўлады павінны навучыцца шанаваць пазіцыю самаўрадаў ды інтарэсы мясцовых грамадскасцей і цярпліва тлумачыць, што ахова прыроды можа прынесці даход.

**Вялікі аркестр святочнай дапамогі** сабраў у Беластоку больш за 13 287 новых злотаў, амаль на 4 тысячы менш, чым у мінулым годзе. Сёлетняя акцыя ставіць сабе за мэту дапамогу дзецям, якія пацярпелі ў выніку дарожных аварый.

**У Гайнаўцы** ў навагоднюю ноч паліцыя затрымала п'янага 17-гадовага юнака, вывезла яго за горад і выпусціла ў самых шкарпэтках. У выніку хлопец адмарозіў ногі і апынуўся ў бальніцы, дзе чакае яго працяглае лячэнне, а можа нават і ампутацыя ступняў. Сям'я юнака накіравала скаргу ў раённую камендатуру паліцыі і пракуратуру.

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

> Ноч з паліцэйскім патрулем — рэпартаж Аляксандра Максімюка.

> Выцвярэзнік прымае кватарантаў — рэпартаж Алега Латышонка.

> Дзе прадаць парожнія бутэлькі? — пытае Уладзімір Сідарук.



## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Памёр Іван Чыгрынаў

Множыцца колькасць стратаў у беларускай літаратуры і нацыянальнай культуры. 5 студзеня на 62 годзе жыцця памёр Іван Чыгрынаў. Вядомы празаік і драматург, старшыня Беларускага фонду культуры, галоўны рэдактар часопіса „Спадчына", член Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў ён па праве насіў званне народнага пісьменніка Беларусі, якога быў удастоены ў 1994 г. За свае выдатныя раманы „Плач перапёлкі" і „Апраўданне крыві" Іван Чыгрынаў узнагароджаны Літаратурнай прэміяй імя Аляксандра Фадзеева. Як адзін з аўтараў сцэнарыя шматсерыйнага фільма „Руіны страляюць" ён атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

### Атэстацыя кіраўнічых кадраў

З 1 студзеня ўведзена ў дзеянне сістэма паказчыкаў дзейнасці ўсіх галін народнай гаспадаркі, па якіх будзе ацэньвацца якасць работы кіраўнікоў усіх рангаў і ўзроўняў адказных за тыя або іншыя ўчасткі работы. Своеасаблівая атэстацыя будзе праведзена на пачатку па выніках 1995 г., а потым будзе праводзіцца штоквартальна. Незалежныя эксперты мяркуюць, што ў цяперашніх складаных эканамічных умовах ужо вясною, у выпадку правалу ў сферы эканомікі, магчымы некаторыя кадравыя перастаноўкі аж да ўрадавага ўзроўню.

### Дэмакратычны клуб

Ініцыятыўная група, у якую ўвайшлі дэпутаты Вярхоўнага Савета XII склікання Мячэслаў Грыб, Дзмітрый Булахаў, Пётр Садоўскі, Уладзімір Сапронаў і іншыя, заявіла пра намер стварыць грамадскую арганізацыю Дэпутацкі клуб. Ужо распрацавана палажэнне аб арганізацыі і іншыя дакументы, неабходныя для яе рэгістрацыі. Аднак арганізацыя аб'ядна́е не толькі дэпутатаў старога склікання. У яе па жаданні могуць увайсці дэпутаты і іншых скліканняў. Мячэслаў Грыб асабліва падкрэсліў, што арганізацыя ствараецца з добрымі, чыстымі думкамі, без усялякіх хістанняў улева-ўправа, каб аб'яднаць гэтых людзей і выкарыстаць іх вопыт і веды на карысць рэспублікі.

### Камітэт падтрымкі прэзідэнта

У Менску адбыўся сход заснавальнікаў Камітэта грамадскай падтрымкі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сход зацвердзіў статут і прыняў зварот да грамадзян Беларусі, у якім у прыватнасці гаворыцца: „Не даць распаясацца экстрэмістам, утрымаць краіну ад канчатковага спаўзання ў бездань разладу і хаосу можна сёння толькі адным спосабам: забыўшы ранейшыя спрэчкі і сваркі, аб'яднаўшыся дзеля адной справы — вакол абранага намі кіраўніка дзяржавы". У гэты час прадстаўнікі пяцідзесяці сямі населеных пунктаў ва ўсіх абласцях рэспублікі заявілі аб намеры ствараць мясцовыя камітэты грамадскай падтрымкі прэзідэнта.

### Асцярожна з крытыкай

Галоўны рэдактар газеты „Свабодныя прафсаюзы" Мікалай Буснюк атрымаў папярэджанне з пракуратуры горада Менска, у якім паведамляецца, што публікаваны ў газеце сцэнарый казкі „Бацянька" за подпісам Івана Карыдорава ўтрымлівае абразы прадстаўнікоў улады рэспублікі ў сувязі з выкананнем імі сваіх абавязкаў. Пракуратура папярэдзіла аб недапушчальнасці злоўжывання свабодай масавай інфармацыі, а таксама пра тое, што ў выпадку неаднаразовых на працягу года парушэнняў закона аб друку, дзейнасць газеты можа быць спынена.

### Турысты ў Віскулях

Віскулі праславіліся на ўвесь свет, але трапіць у гэтыя мясціны да апошняга часу мог далёка не кожны. У новым годзе сітуацыя, здаецца, змяніцца. Турыстаў чакаюць камфартабельныя гасцінічныя нумары непадалёку ад рэзідэнцыі былога ўрада СССР. Больш будзе можна даведацца і пра выдатныя мясціны Белавежскай пушчы. Работнікі запаведніка распрацавалі прынцыпова новыя турыстычныя пешаходныя маршруты „Таёжная сцежка" і „Малое азёрнае колца". Не забыты і аматары аўтобусных прагулак. Сетка аўтамабільных дарог дазваляе азнаёміцца з любым куточкам пушчы. У перспектыве будуць адкрыты веласіпедныя і конныя маршруты.

### Лукша ў „Who is who"

З горада Нью-Правідэнс (штат Нью-Джэрсі, ЗША) прыйшло паведамленне аб тым, што дырэктар выдавецтва „Юнацтва", пісьменнік Валянцін Лукша ўключаны ў XII выданне біяграфічнага даведніка „Хто ёсць хто ў свеце". Вядомае амерыканскае выдавецтва „Маркіз" праціягвае знаёмства з людзьмі, чые дасягненні і дзейнасць уяўляюць цікавасць для шырокай аўдыторыі. У згаданым унікальным выданні адзначаецца шматгранная, пазначаная плённымі пошукамі кнігавыдавецкая дзейнасць Лукшы і яго літаратурная творчасць для падрастаючага пакалення. Менавіта гэта і стала падставай для Амерыканскага біяграфічнага інстытута надаць Валянціну Лукшу прэстыжны тытул „Чалавек 1995 года".

# ДЗЕ БОЛЬШ ДЭМАКРАТЫІ?

Пасля каталіцкіх Каляд у нашу рэдакцыю званілі многія чытачы з пытаннем, ці польскае тэлебачанне не магло б так сама патрактаваць праваслаўных грамадзян сваёй краіны, як беларускае паставілася да католікаў у Беларусі. Праграма мінскага тэлебачання дзень перад Калядамі як і два святочныя дні поўнасцю была прысвечана каталіцкай традыцыі ў Беларусі. Асвятляліся гісторыя і сучасныя праблемы Касцёла, духавенства і вернікаў, былі трансляцыі з багаслужбаў, з блакітных экранаў сплывалі святочны настрой і сапраўдная калядная атмасфера. Шмат чаго паказвалася на польскай мове.

— Там жа палякаў, — гаварылі нашыя чытачы, — толькі сама, што беларусаў у Польшчы. Чаму ж тады на праваслаўныя Каляды ў польскім тэлебачанні пакажуць толькі аднахвілінны сюжэт, найчасцей архіўнага характару, з нейкім дзіўным каментарыем?

— Гэта несправядліва, — сказаў чытач, які пазваніў з Нараўкі, — называць Беларусь недэмакратычнай краінай, бо як тады акрэсліць тое, што дзеецца ў Польшчы ў адносінах да праваслаўных святкаванняў, калі большасць вернікаў вымушана ісці на працу.

Жанчына, якая пазваніла з Беластока, паінфармавала, што святочны, другі дзень Каляд, каб не страціць працы, мусіць правесці ў рабочай вопратцы, і зноў паставіла пытанне, ці не можа быць так як у Беларусі, дзе каталіцкія Каляды і Вялікдзень з'яўляюцца свабоднымі ад працы днямі для ўсіх жыхароў краіны.

Зразумела, на такія пытанні мы не можам даць адказу, але будзем дамагацца, каб адказалі на іх адпаведныя органы дзяржаўнай улады.

Толькі адзін тэлефон быў з пытаннем: чаму ў беларускім тэлебачанні не адзначаліся праваслаўныя Каляды, а толькі каталіцкія. На жаль, у гэтым выпадку таксама мы не маглі даць ніякага адказу.

рэд.

### Новае ў Дуброўскай гміне

У 1995 годзе ў Дуброўскай гміне пабудавалі водаправоды між іншым у Альшах, Пяцівалоках, Малым Звярынцы, Гарасімовічах-каленіі і ў Востраве-каленіі.

Многа было зроблена ў самой Дуброве-Беластоцкай. Аднавілі пяць вуліц і пабудавалі стаянку аўтамабіляў.

У 1996 годзе гмінныя ўлады плануюць пабудову зваліі смецця (дакументацыя ўжо гатова). Будзе закончана пабудова гарадской каналізацыі. Як і летась жыхары некалькіх вёсак атрымаюць ваду з крана.

(яц)

# Святкуем!

Ад некалькіх гадоў беларускія дзеячы Беласточчыны дамагаюцца, каб праваслаўныя святы, такія як Каляды ці Вялікдзень, былі свабоднымі ад працы. У Беларусі падчас каталіцкіх святаў адпачывае таксама 80 працэнтаў праваслаўных. Таму прапанова каб, напрыклад, падчас праваслаўных Каляд 60 працэнтаў католікаў Беластоцкага ваяводства магло таксама ўшанаваць рэлігійныя традыцыі суседзяў, не была асаблівым пажаданнем накіраваным у адрас дзяржаўных улад. Пісьмы ў гэтай справе былі адрасаваныя беластоцкаму ваяводу і міністрам, якія маглі б мець да яе нейкае дачыненне. У лістападзе ваявода Анджэй Гаеўскі паставіў міністру працы і сацыяльнай аховы пытанне: як можна вырашыць праблемы, звязаныя з днямі свабоднымі ад працы для праваслаўных? Адказ, які атрымаў ваявода з міністэрства, быў даволі просты. Там, дзе ў вялікай колькасці пражывае праваслаўнае насельніцтва, калядныя ці велікодныя дні можна адпрацаваць у свабодныя суботы і гэта можа быць вырашана на ўзроўні дырэкцыі кожнай фірмы. У міністэрстве абяцалі аднак, што ўсе суботы перад праваслаўнымі Калядамі ці Вялікаднем будуць свабодныя. Добра і столькі. Але калі хто захоча яшчэ пасвяткаваць, трэба яму будзе пайсці і надалей прасіць пана дырэктара.

М.Я.

P.S. Змест карэспандэнцыі ваяводы з міністэрствам з архіва Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай.

# Суседзі дапамаглі ў бядзе

Жыхар Альхоўкі і адначасова настаўнік Пачатковай школы ў Нараўцы Мікалай Варанецкі расказаў мне пра самаахвярнасць сваіх аднасяльчан.

7 снежня мінулага года згарэла старая хата адзінокага жыхара вёскі Альхоўка Янкі С. Падчас пажару агонь перакінуўся на другі мураваны дом, пабудову якога яшчэ не закончыў. Дык вось так нечакана чалавеку не стала дзе жыць. І тут у бядзе дапамаглі не хто іншы як суседзі і аднавяскоўцы. Найперш сабралі яны крыху грошай — больш дзесяці мільёнаў старых злотаў. Спатрэбіліся яны пільна на пакупку будаўнічага драўлянага матэрыялу. Затым на шыфер (этэрніт) грошы высігнавала Гмінная ўправа ў Нараўцы. З суседскай дапамогай найперш прыйшлі Уладзімір Зданоўскі, Сяргей Сачко, Юры Раманчук, Яўген Дацкевіч і другія тамашнія жыхары.

17 снежня 1995 года ў грамадскім пачыне пры пабудове шмат працавалі Васіль Кічкайла, Ян Янкоўскі, Славамір і Яраслаў Лукшы, Віктар Сачко, Аляксандр Граматовіч, Юры Мароз, Канстанцін Лукша і іншыя асобы.

І так вось дзякуючы такому грамадзянскаму стаўленню і самаадданасці жыхароў Альхоўкі пагарэлец мае дах над галавой. Апрача таго душа яго сагрэта цяплом гарачых добразычлівых сэрцаў аднасяльчан.

Янка Ляўкоўскі

## Пажары ў Ляўкове

Познім вечарам з 1 на 2 студзеня бягучага года першым пачаў гарэць хлеў у вёсцы Старое Ляўкова і затым абора на хутары Новае Ляўкова (Нараўчанская гміна). Была гэта якраз пара, калі ўтомленыя працай вяскоўцы збіраюцца ісці спаць, а некаторыя дык ужо і прыснулі. Раптам цішыню зімовага вечара ўскалыхнулі сірэны пажарных самаходаў.

Патушылі яны адзін стоўб агню, а тут неўзабаве ўспыхнуў другі. Недалёка адзін ад другога — нейкіх паўтара кіламетра.

Жыхары Новага Ляўкова пачынаючы ад 1990 года перажылі 15 (!) пажараў, перш-наперш клуняў і хлявоў. Дом гарэў — на шчасце толькі ў адным выпадку і быў ён пусты.

Прайшло крыху часу і ляўкоўцы пачалі спаць спакайней. Прызабылі зарывы над вёскай ды пранізлівае выццё сірэн. І вось зноў, калі толькі мінуў усяго першы дзень новага года, нахлынула на вёскі няшчасце... Зноў ураз два пажары!

Зноў як жа трывожна забіліся сэрцы тутэйшых земляробаў. Зноў шквалам абрушыўся неспакой за ўсё, што зараз у аборы і стадоле. Жыхары Новага і Старога Ляўкова мяркуюць, што ў многіх з вышэйзгаданых выпадкаў маецца дачыненне са злачынцам-падпальшчыкам... У апошні раз таксама.

(Я. Ц.)

## ТРАДЫЦЫЯ АДЫХОДЗІЦЬ З ПАКАЛЕННЯМІ

У жыцці кожнага з нас адбылося шмат цікавых эпізодаў, якія пісьменніку далі б аснову для напісання рамана. Многія з іх звязаны з народнай абраднасцю.

Вось напрыклад Каляды і калядаванне. Памятаю, як я калядаваў у дзяцінстве з братам. Хадзілі мы, ад хаты да хаты, пачаткова без „гвязды". Спявалі калядкі, якіх вучыла нас бабуля, бацькава маці. Такіх як мы каляднікаў хадзіла некалькі дзесятак. Хадзілі каляднікі кузаўскія і чужыя, з суседніх вёсак. У чужых былі харошыя двухрадныя „гвязды" за шклом. І калядкі спявалі іншыя, кузаўцам невядомыя. Таму вяскоўцы прымалі іх амаль у кожнай хаце.

Апрача „гвяздароў" у Кузаве была батлейка (шопка). Зрабіў яе ў пяцідзесятых гадах аднавясковец Іван Маркевіч. Вось, што гаворыць аб гэтым ягоны сын Міхась:

— Шопку зрабіў у пяцідзесятых гадах бацька з старэйшым братам Алесем. Быў гэта невялічкі домік з фанеры. Унутры выслань ён быў зайчыкавай ці кролікавай шкурай. Лялькі (а было іх дваццаць пяць) выразаў з дрэва брат з калегамі — Уладзімірам Саўчуком і Міхасём Бішчуком.

Адышоў з таго свету Іван Маркевіч. Няма ў жывых ягонага сына Алеся, ні Міхася Бішчука. Забралі яны з сабою таямніцу кузаўскай батлейкі, часцінку мясцовай традыцыі калядавання, часцінку нашай культуры.

Застаўся ў маёй памяці яшчэ адзін цікавы эпізод, які датычыцца калядавання. У шасцідзесятых гадах, працуючы ў Ваяводскім праўленні кіно ў Беластоку, трапіў я з кінаперасоўкай на Каляды ў невялічкую вёску Тэрампіскі, што схавалася ў Белавежскай пушчы, непадалёк Белавежы. Палову жыхароў складалі палякі, другую палову — беларусы.

У Тэраміскіх калядавалі дарослыя, дзяўчаты ды хлопцы два разы: на каталіцкае свята, пасля — на праваслаўнае. Усе жыхары жылі дружна і згодна. Таму і ў калядаванні не было падзелу на палякаў і „рускіх". І гуляла тэраміскаўская моладзь вясёла і дружна праз усе дні Каляд.

Зараз занікае традыцыя калядавання ў нашых вёсках. У Кузаве штораз радзей можна сустрэць „гвяздароў", не гаворачы ўжо аб „камедыянтах"-штукарах, якія хадзілі па вёсках перад Новым годам на гагатуху. Выступалі тады: смерць з касою, д'ябал, журавель, дзед з бабаю, цыган і іншыя.

Калі ўспамінаю ўсё гэта ў святочны вечар, сумна робіцца чалавеку на душы. Чаму так дзеецца на свеце, што жывыя людзі ў цывілізаваным грамадстве адракаюцца сваёй даўніны, культуры продкаў. Проста забываюць. Але чаму?

Уладзімір Сідарук

# З-за прылаўка

Гэты пасёлак з пяціпавярховых дамоў крыху за Бельскам. Жыве ў ім звыш тысячы чалавек. Натуральна дзеліцца на дзве часткі: старую і новую. У першай жывуць, галоўным чынам, былыя працаўнікі ліквідаванага прадпрыемства, сярод якіх многа беспрацоўных. Новыя блёкі будаваліся ўжо пры капіталізме, з цэглы, са святлейшымі пад'ездамі і больш прасторнымі лесвіцамі, большымі і лепш запланаванымі кватэрамі. Тут найбольш тыповыя жыхары — маладыя сужонствы з малымі дзецьмі.

На пасёлку дзве крамы з усякай усячынай, адна прыватная, а другая — уласнасць жыллёвага кааператыва. Кааператыўная ўзнікла мінулай вясною, але нават на працягу такога кароткага часу некалькі разоў мяняўся там персанал, праводзіўся рамонт, мянялася размяшчэнне тавараў. Прыватная працуе ўжо тры гады. Хаця займае невялікае памяшканне, ад тавару гнуцца полкі. Апрача ўласніка і яго сям'і, працуюць там дзве маладыя дзяўчыны. Некаторыя пакупнікі кажуць, што ўжо дзеля іх варта выбраць гэтую краму.

Восем гадзін, дзень у дзень, на такім месцы, праз якое праходзяць сотні людзей, гэта дасканалы назіральны пункт. Можна сказаць, сэрца пасёлка, у якім нічога апрача кватэр і двух магазінаў няма ні школы, ні прадшколля, ні якогасьці дома культуры. Пра тое, што дзеецца вакол яе, расказвае адна з прадаўшчыц:

— Па прозвішчах я ўсіх жыхароў пасёлка не ведаю, але па тварах — так. Калі мне хто расказвае пра кагосьці і я не дагадваюся пра каго, пытаюся, а як яго дзеці называюцца. Мы лепш ведаем дзяцей, бо яны найчасцейшыя кліенты — а то па ледзянец на палачцы забягуць, а то па жуйку ці чыпсы. Такія тавары: салодкае, хрупкі, ёгурт, будынь, розныя тваражкі, дарэчы, найлепш сходзяць.

Дзеці ўстанаўляюць нам, у пэўным сэнсе, парадак дня, а прынамсі інтэнсіўнасць працы ў тых ці іншых гадзінах. Калі ідуць у школу, то ў нас першыя кліенты з'яўляюцца ўжо перад шостай і да сёмай увесь час чарга. Калі свабодны ад вучобы дзень, то да восьмай амаль няма пакупнікоў. Людзі могуць выспацца і прадукты на снеданне купляюць дзесьці так ад восьмай да дзесятай. Ну, а пасля поўдня, то найбольш кліентаў ад чацвёртай да шостай.

У нас людзі не часта раскашэльваюцца на дарагія вяндліны, хіба што перад святамі. А так найбольш папулярныя гатункі: сасіскі, „звычайна", ліверка. Яшчэ „мартадэля", якую любяць асабліва старэйшыя людзі, купляюць большы кавалак, потым смажаць з яйкам ці цыбулькай.

Ёсць людзі, якія кажуць, што ў нас нават хлеб і малако задарагія. Яны штодзень раніцай едуць па гэтыя прадукты на рынак. Ну, але гэта пару старэйшых асоб, пенсіянераў, у якіх шмат свабоднага часу.

Цяпер наогул, калі ў горадзе адкрыты аптовыя склады, большыя пакупкі людзі стараюцца рабіць там, бо танней. У нас, вядома, хлеб, малако, булкі, сыр, розныя прыправы, кансервы, асабліва рыбныя ў пост. Таму, што мы далёка ад цэнтра, добра прадаецца марожаная гародніна на суп. Бытавая хімія горш прадаецца. Усё-такі больш шасць купляе яе ў „гуртоўнях".

Цікавая справа, што, напрыклад, малака і хлеба купляюць людзі больш зімою, чымсьці летам. Таксама ўсялякія хрупкі, арэшкі, салодкасці, бо — я так разумею — спажываецца іх перад тэлевізарам. Ну, летам ідзе многа марозіва. Але, напрыклад, піва, то амаль таксама, нягледзячы на пару года. Некаторыя то ўжо раніцай пільнуюць, калі я іду адчыняць краму і пачынаюць дзень з піва. Калі будаваліся гэтыя новыя блёкі, то пацякла тут рэчка піва. Я здзіўляюся, як гэтыя сцэны проста сталі. Ужо як летась канчалі найнавейшы блёк, то таго не было — або рабочыя непітушчыя трапіліся, або дысцыпліна на будове мацнейшая была. У нас добра, што на месцы нельга піць піва. Кожны купіць і адыдзе — ці то дадому, ці дзесьці пад дрэва, і ў нас спакой. А як я працавала ў сваёй першай краме, то там нап'юцца, абзываюцца, чапляюцца адзін да аднаго. Аж невядома, як сябе тады паводзіць. Тут у нас спакой, яшчэ мяне ніякая прыкрасць не спаткала.

Раз толькі адна жанчына не вярнула грошай, калі на крэдыт брала. Цяпер стараецца мяне не сустракаць і шэфа таксама. Але мне і самой няпрыемна звяртаць увагу, раз толькі сыну яе нагадала. На крэдыт у нас бяра так з пятнаццаць чалавек пастаянна, але ўсе аддаюць, за выключэннем гэтае аднае асобы. Іншыя час ад часу, калі каму грошай да першага не хапае, ці забудзецца дома. Мы людзей ведаем, то даем. Адно піва на крэдыт не даем нікому.

Мікола Ваўранюк

*Віктар Ярмалковіч*

# На хвалях жыцця

*(працяг; пачатак у 41 н-ры за мінулы год)*

### На бацькаўшчыне

Цэлы тыдзень ехалі мы з Іркуцка ў Вільню. Пасля дзевяці гадоў блукання па свеце цяпер і свая Вільня паказалася дзіўнай — знаёмай і адначасна чужой.

Прыехалі браты і Аўгінню забралі на вёску. Я застаўся ў горадзе ў цётк. Трэба было шукаць работу.

Пайшоў я з дамавой кнігай у міліцыю прапісацца. „Нельзя", сказалі мне ў міліцыі і растлумачылі гэта тым, што ў доме быццам замала „жилой площади". Пачаў я шукаць работу — адусюль адсылалі мяне з нічым. У некаторых установах часам нават і абяцалі нейкі занятак, але на другі дзень адказвалі. Не было нават дзе зарэгістравацца як беспрацоўнаму.

Жыццё без прапіскі пагражала пакараннем. Нічога не атрымаўшы ў горадзе, паехаў я да брата ў Юшкі. Там цяпер была таксама Аўгіння. Зваліліся мы на карак брату, а ў яго самога таксама была свая сям'я і свае клопаты.

Праходзілі дні, а мае выезды ў Вільню ў пошуках работы заставаліся безвыніковымі. У пяці кіламетрах ад Юшкоў, у Бярозаўцы, кіраўніком школы працаваў мой калега з універсітэцкіх часоў — Чартовіч. У адну нядзелю пайшоў я наведаць яго. „Еду ў Вілейку. Давайце паедзем разам у раённы аддзел народнай асветы. У школы зараз уводзяць польскую мову і патрэбныя настаўнікі, якія яе ведаюць. Уладкуецеся на работу ў школьніцтве", параіў ён нам.

Цёмнай ноччу пайшлі мы з ім у Меднікі, дзе доўга прыйшлося чакаць аўтобуса ў Вільню. У рэшце рэшт неяк дабраліся ў Новую Вілейку. У райана прыняў нас сам кіраўнік Ананьеў. Трохі распытваў ён нас пра нашыя кваліфікацыі і працоўны стаж і ў выніку прыняў нас на работу ды назначыў настаўнікамі ў сямігадовай школе, якая яшчэ арганізавалася, у вёсцы Старое Сяло. Шчаслівы, што маем работу, вяртаўся я ў Юшкі.

### Старое Сяло

Ад Юшкоў у Старое Сяло — сем кіламетраў. У той час Старое Сяло налічвала каля трыццаці хатаў. Усе будынкі тут былі драўляныя і пакрытыя саламянай страхой. Электрычнасці ў вёсцы не было. Вечарамі і ноччу па хатах свяціліся газавыя лямпы. Да найбліжэйшага аўтобуснага прыпынку трэба было ісці сем кіламетраў палявымі дарогамі цераз пагоркі і кусты ў Тургелі або Раканцы.

Школа ў той час мела яшчэ толькі пяць класаў, якія размяшчаліся ў трох пакоях двух вясковых хатаў, аддаленых адна ад адной на чвэрць кіламетра. Былі гэта хаты Петрусевіча і, здаецца, Станкевіча, якіх вывезлі ў Расею.

У школе працавалі трое настаўнікаў: двух расейцаў — кіраўнічка Пікалава з Тамбоўскай вобласці ды Тулупаў недзе з-пад Масквы, і мясцовая настаўніца Крупіцкая. Цяпер дайшло яшчэ нас двое. Школу наведвала каля паўтары сотні дзяцей. Усе яны гаварылі па-беларуску, але навучанне вялося на расейскай і польскай мовах. Насельніцтва Старога Сяла і навакольных вёсак таксама гаварыла па-беларуску, але ўсе яны пісаліся палякамі, бо гаварылася, што палякаў не бяруць у войска. Тут і ў такіх умовах трэба было пачынаць сваю працу. У такіх абставінах падтрымоўвала мяне на духу свядомасць, што праца гэтая будзе сярод сваіх і для сваіх.

Кіраўнічка школы Пікалава мела дакументы, што закончыла яна толькі сем класаў. Ледзь мінулі два тыдні маёй працы, а ўжо прыйшло для мяне назначэнне на пасаду дырэктара школы. Паехаў я ў райана прасіць, каб мяне зволнілі з дырэктарства, але задаволіць маю просьбу адмовіліся. Тым часам абражаная Пікалава каго магла пачала настаўляць супраць мяне. Выйшла так, што ледзь пачаў працаваць, а ўжо пачаліся інтрыгі чужынцаў. У выніку ўсяго гэтага Пікалаву перавялі ў суседнюю школу, а пазней за нейкае парушэнне зусім вызвалілі з работы. Так і прайшоў школьны год. Прыбыў нам яшчэ адзін клас, шосты, а памяшканні засталіся тыя ж самыя.

Яшчэ вясною падаў я ў райана распрацаваны праект рамонту і разбудовы школы. З маім праектам згадзіліся. Клопатаў прыбывала. Летам пачаўся рамонт памяшканняў, потым пачалася дабудова двух залаў.

З пачатку новага навучальнага года змяніўся настаўніцкі састаў. Выехаў Тулупаў, а прыехала сям'я Мацейкаў — бацькі з дачкою, усе трое настаўнікі. Трэба было іх уладкаваць на работу, прыдбаць кватэру. Усё неяк памалу ўладжвалася. Акрамя нармальнай навучальнай работы трэба было наглядаць за расаднікам садовых дрэў, у якім дзеці вучыліся даглядаць і размнажаць сады. Арганізаваліся курсы для дарослых у рамках сямігодкі. Выкарысталі мы валы, якія цягнуліся каля вёскі, і грамадскім чынам школа пачала рабіць сажалку. Давала гэта для вёскі запас вады на выпадак пажару, а таксама месца адпачынку над вадой. Так у працы і клопатах прайшоў другі школьны год. Не шкада было траціць свае сілы, бо працавалася, як раней я гаварыў, сярод сваіх і для сваіх. Хацелася змяніць выгляд драўлянай з саламянымі страхамі, адсталай, і як гаворыцца, адгароджанай ад рэшты свету дошкамі, вёскі.

З раённага выканаўчага камітэта прыязджалі ў розных справах усялякія ўпаўнаважаныя, нейкія прыблуды ліха ведае адкуль. У першую чаргу пхаліся яны ў школу, мяшалі ў жыцці і ў рабоце, надаядалі насельніцтву. Давялі яны да таго, што паехаў я ў райана зноў прасіць, каб зволнілі мяне з пасады дырэктара. Раённы начальнік, паўжартам і напаўсур'ёзна сказаў: „Раней пасадзім, а пазней зволнім". Так яно і сталася.

*(працяг будзе)*

# Нельга пысу зваць мухаедам

Звяз беларускай моладзі (ЗБМ) выступіў з Беларускага саюза ў Польшчы. Вырашыла пра гэты крок, як здаецца, публікацыя ў нашым тыднёвіку невялікай нататкі на старонцы гумару: „ЗБМ — новае тлумачэнне". Закранутае ейным зместам кіраўніцтва маладзёжнай арганізацыі стала дамагацца перапросін з боку тыднёвіка. І мэту гэту, вядома ж, дасягнула, хоць, можа, не ў такім выглядзе, у якім кіраўніцтву ЗБМ усё гэта ўяўлялася (не на першай старонцы, ніхто таксама не біў кулакамі ў грудзі ў пакутніцкай канвульсіі). Але і не было, дарэчы, асноў, каб хто-небудзь з рэдакцыі сыпаў попел на сваю галаву.

Усё, што будзе сказана ў гэтым фельетоне мае аўтарска-суб'ектыўны характар. Засцярога гэтая не лішняя, бо ўся справа ў вялікай меры датычыць рэдакцыі, а мне хочацца, каб усе заўвагі засталіся маімі прыватнымі — без памкнення на нейкае афіцыйнае становішча.

Маладосць характэрная бунтарствам. Добра, калі ў пары з ім ідзе гэтак званая „новая якасць". У дадзеным выпадку я бачу аж надта наяўны прыклад бунтарства, але не дагледжваю другога элемента, які натуральным чынам павінен ўраўнаважваць гэты першы. Сказаць, „а пайшлі вы нахер, мы выступаем" вельмі проста. Дзеля гэтага патрабуецца ўсяго адмысловая заява, а ў гэтым то мы, беларусы, сапраўдныя майстры. Хацеў хто гэтага ці не, але ў гэты момант прабіваецца вялікая іронія ўзніклай сітуацыі. Беларуская моладзь выступіла з Беларускага саюза, а не з... Праграмнай рады Тыднёвіка „Ніва" — галоўнага „віноўніка". Іронію гэту я сабе тлумачу вялікай прадбачлівасцю арганізатараў структуры беларускага руху ў сучаснай Польшчы, якія так „закруцілі" гэту структуру, што не так ужо і лёгка з яе выступіць.

Адступніцтва беларускай моладзі мае ўсё-такі моцна непрадуманы характар. Я сабе прыгадваю вялікі гвалт, які ўчыніўся пасля аднаго інтэрв'ю, дадзенага старшынёю Звязу беларускай моладзі ў Мінску. Пасля гэтага інтэрв'ю польскія ўлады стварылі сабе такую, а не іншую ўяву пра ЗБМ. Гэта Беларускі саюз ды іншыя арганізацыі „адкручвалі ўзад" такое скрыўленае бачанне ЗБМ гэтымі ўладамі. Варта пры гэтым дадаць, што ніхто з беларускіх дзеячаў публічна не абражаўся за жарт, які сабе зрабіла беларуская моладзь. Звяз беларускай моладзі, выступаючы з Беларускага саюза, хіба (!?), адкінуў гэтае заступніцтва.

Факт аднак з'яўляецца фактам. ЗБМ выступіў з Беларускага саюза. Варта тут задумацца, ці было за што. У лісце, які надышоў у нашу рэдакцыю, бельская моладзь даказвае, што нельга з яе жартаваць. Прачытаўшы той ліст я сабе паставіў пытанне: хто з каго, так папраўдзе, робіць тут жарты? Беларуская моладзь сарганізавалася ў Звяз беларускай моладзі. Хай сабе была гэта і не ўся беларуская моладзь, але напэўна свядомая яе частка. А гэта ўжо нешта значыць. Вынікам арганізаванай дзейнасці беларускай моладзі стала мерапрыемства „Бардаўская восень" — фестываль аўтарскай песні. У час другога яго выпуску дайшло да мардабою паміж арганізатарамі (ЗБМаўцамі) і бельскімі хуліганамі. Мардабой, несумненна, можа быць цікавым элементам мерапрыемства, калі маем дачыненне з патанцоўкай пад гук *disco polo*, але што пра ўсё гэта думаць у кантэксце „Бардаўскай восені" — сур'ёзнага фестывалю, на якім прызнаюцца ўзнагароды, на які запрашаюцца гарадскія і ваяводскія ўлады, і г.д. На

*Працяг на стар. 8*

# Немцы сярод нас

**Гутарка з Альфрэдам Чэслам, прэс-прадстаўніком Ольштынскага згуртавання нямецкай меншасці.**

*— На навуковай сесіі „Культурная тоеснасць насельніцтва Варміі і Мазураў" былі прадстаўлены новыя інфармацыі пра першыя нямецкія арганізацыі.*

— Паявіліся яны ў 1950 годзе, калі былі спынены рэпрэсіі і абмежаванні ў адносінах да немцаў. Заснаваны тады былі нямецкамоўныя прадшколлі і школы а таксама прэса. Для асяроддзя ольштынскіх работнікаў сельскай гаспадаркі пачалі выдаваць „Der PGR Arbeiter" („Работнік ПГР"). Узнікаючы фальклорныя ансамблі, хоры і капэлы ўспамагала Міністэрства культуры і мастацтва ПНР. У 1957 годзе паўстаў у Ольштыне гурток Нямецкага грамадска-культурнага таварыства, але яго праўленне не паспела сабрацца, бо выэмігравала ў Германію ў рамках акцыі Нямецкага чырвонага крыжа, пачатай у 1955 годзе. Пасля ўсё замерла да пачатку 60-х гадоў, калі таварыства было адноўленае, аднак яго дзейнасць была анемічная і спынілася пасля трэцяй хвалі выездаў у ФРГ у 70-х гадах. За арганізацыю грамадскіх згуртаванняў узяліся апошнія немцы, аднак іх планы спыніла ваеннае становішча ў Польшчы. Пасля гэтага, у 1984—1989 гадах у суды складзена 14 заяў на рэгістрацыю арганізацый нямецкай меншасці. Сітуацыя змянілася ў 1989 годзе. Закон аб згуртаваннях з красавіка 1989 г. і польска-нямецкі дагавор аб добрасуседскім супрацоўніцтве з чэрвеня 1991 г. прынеслі поўную свабоду нямецкай дыяспары. Пастановай Міністэрства нацыянальнай адукацыі створана нямецкай меншасці магчымасць засноўваць свае школы і прадшколлі.

*— Як мне вядома, першую нямецкую арганізацыю ў ІІІ Рэчы Паспалітай зарэгістраваў Ваяводскі суд у Катавіцах у студзені 1990 года, пазней узніклі яны ў Чанстахове, на Шлёнску Апольскім і ў Гданьску.*

— На нашай тэрыторыі на зломе 1990/91 гадоў паўстала 5 арганізацый. Цяпер на Варміі і Мазурах дзейнічае іх 24: у Барчэве, Барташыцах, Біскупцы, Браневе, Элку, Гіжыцку, Голдапе, Гурове, Ілаве, Кентшыне, Лідзбарку-Вармінскім, Маронгу, Мрангове, Нідзіцы, Алецку, Аструдзе, Альштынку, Пасленку, Пішы, Рэшлі, Шчытне, Венгажэве і дзве ў Ольштыне. У сакавіку 1993 года ў Ольштыне паўстаў Саюз нямецкіх арганізацый у былой Усходняй Прусіі, да якога прыступілі ўсе 24 нашыя гурткі і які ўваходзіць у састаў Саюза нямецкіх грамадска-культурных згуртаванняў у Польшчы з сядзібай у Аполі.

*— Я чуў пра вашы фонды. Якую яны адыгрываюць ролю?*

— Дзейнічаюць два і служаць яны прыбліжэнню польскай і нямецкай моладзі. Мэтай сваёй дзейнасці ставяць яны распаўсюджванне ведаў па гісторыі і культуры абодвух дзяржаў, абмен думкамі пра ролю Польшчы і Германіі ў інтэграванні Еўропы, арганізацыю супольных семінараў, канферэнцый і адпачынку, навучанне палякаў нямецкай мове і немцаў польскай.

*— Адкуль бярэце на гэта грошы?*

— Дапамагае нямецкі ўрад. На 1996 год прызначыў ён 26,5 млн. марак для пяці соцень нямецкіх згуртаванняў у Польшчы м.ін. на падтрымку Шлёнскага нямецкага фонду, на прыдзяленне крэдытаў, на ўтрыманне больш 50-ці дамоў сацыяльнай апекі св. Іаана, на супрацоўніцтва з Карытасам, на навуку нямецкай мове. Невялікую грашовую квоту дае польскае Міністэрства культуры і мастацтва. Падтрымку аказваюць прыватныя спонсары, фонды, дзелавыя людзі з Польшчы і Германіі.

*— Ці шматлікая нямецкая меншасць на Варміі і Мазурах? Колькі немцаў атрымала пашпарты і ці цяпер немцы выязджаюць у Германію?*

— Нас тут каля 25 тысяч; да арганізацый належыць каля 15 тысяч. У цэлай Польшчы пражывае каля 170 тысяч немцаў, у тым ліку 65 тысяч згуртаваных. Яшчэ ў 1989 годзе з Польшчы ў Германію выехала каля 250 тысяч немцаў, а ў мінулым менш за 2 тысячы. Вармію і Мазуры пакінулі нямногія.

**Гутарыў**
**Андрэй Гаўрылюк**

# ЗВЕР НА ДАРОЗЕ

**(Расказ пра адно здарэнне)**

Апісанае мною здарэнне адбылося 8 лютага 1980 года. У гэты час быў я студэнтам IV курса геаграфіі Люблінскага універсітэта. Выбраў я тэму магістэрскай працы: „Геаграфічна-эканамічная манаграфія горада Бельск-Падляшскі". Збіранне матэрыялаў да працы было дасканалай нагодай прыезду дадому. Хадзіў я тады ў бельскі магістрат, наведваў прадпрыемствы, культурныя і асветныя ўстановы, знаёміўся з людзьмі. Меў дазвол гартаць некаторыя дакументы, учытваўся ў рознага тыпу справаздачы, аглядаў хронікі.

Пасля адной такой пабыўкі ў Бельску вяртаўся я дадому ў Мокрае. А 17 гадзіне высеў з поезда на станцы Падбелле. Заставалася яшчэ ісці пешшу 3 кіламетры, што патрабавала больш-менш паўгадзіны часу. На пероне бачыў я як з вагона выйшаў аднавясковец Рыгор Пракапюк, якому было тады недзе пад пяцьдзесят гадоў. У самым Падбеллі да разгалінавання дарог у Дубяжын і Мокрае ішоў я з дубяжынцамі. За паваротам дарогі ў Мокрае аглянуўся — спадар Пракапюк, не спяшаючыся, крочыў далёка ззаду.

Быў цёмны, бязмесячны вечар. Мароз не дакучаў, але затое пасля завеяў ляжала шмат снегу, асабліва па баках нядаўна расчышчанай дарогі. Ішоў я крок за крокам, заглыблены ў сваіх думках, надта не спаглядаў на наваколле.

У паўдарогі паміж Падбеллем і Мокрым сышоў я з Гары — пасляледавіковага марэннага ўзвышша, мінуў скрыжаванне маёй дарогі з бельска-дубяжынскім гасцінцам, увайшоў на г.зв. Царкоўную дарогу, якая ўжо прама вяла ў маю вёску. Направа пачынаўся пераважна сасновы лес Бурок, налева стаялі старыя вербы.

Раптам нешта глыбокае, душэўнае мною кранула, затрымала. Гляну я наперад. Міма цемры, у гэты нечаканы момант на фоне святла макрэнскіх хат на адлегласці каля 70 метраў ад сябе ўгледзеў я чорны сілуэт непарушна сядзеўшага на дарозе звера. Здрыгануўся я, па целе пабеглі мурашкі.

Я павярнуўся назад. На схіле Гары спыніў спадара Пракапюка, расказаў пра напатканае. Той не паверыў, засмяяўся. Калі закурылі папяросу, рушылі мы ісці за скрыжаванне. Затрымаліся ў тым самым месцы, што я раней. Не было жартаў — звер чакаў на ахвяру.

У кустах сярод снежных гурбаў выламалі мы тоўстыя вярбовыя палкі. Падаліся ў бок Дубяжына, а перад мастом сышлі на смуг, каб абмінуць Бурок. Тым часам звер выйшаў на заснежанае поле. Калі моўчкі пасоўваўся да нас, мы са страху пачалі крычаць, размахвацца дубінамі. На паўадлегласці між лясным масівам і намі звер затрымаўся. Надумаліся тады ісці побач рова, а потым полем, штораз спазіраючы направа. Звер больш ужо з месца не кранаўся. Выйшлі на дарогу перад першымі сядзібамі Мокрага.

Пра здарэнне расказаў я хатнім. Усю ноч мучыўся ад бяссонніцы. Калі развіднела, пайшоў я пад Бурок, дзе на снезе ўбачыў значнай велічыні воўчыя або сабачыя сляды.

Праз пару дзён ад жыхароў Мокрага і Кнарыдаў дайшлі чуткі, што недзе паміж Боцькамі і Кнарыдамі выпушчаны былі на волю прывезены невядома адкуль ваўкі — дзеля іх акліматызацыі ў асяроддзі мясцовых лясоў. Многім давялося бачыць гэтых драпежных жывёлін. Аднак ужо напрадвесні слых пра ваўкоў загінуў. Мажліва, што ад аднаго з гэтых драпежніkaў звеДаў я немала страху.

**Юры Баена**

<u>У кіпцюрах цэцерука</u>

# Сіла прывычкі

Разбуральная бывае сіла прывычкі. Як не круці, як не старайся, як не падбірай словы, а язык усё-такі сарвецца, бы дзікі сабака з ланцуга, ды ляпне нейкае глупства. Не дурны сказаў: „Чаго ў маладосці нанюхаешся, тым на старасць і смярдзець будзеш". Возьмем тут для добрага прыкладу майго дзядулю. Выхаваны ў горадзе Пецярбургу, ужо ў сталыя гады пераехаў на Беласточчыну, дзе пасяліўся ў вёсцы Райскі Хутар.

— Уважаемые Господа! — так і толькі так абраны солтысам дзед адкрываў кожны вясковы сход.

З часам вяскоўцы перасталі называць дзеда Макар Макарыч, а звычайна і каротка гаварылі: Гаспод.

Каб вы бачылі здзіўленне нейкага, праўдападобна высокага царскага саноўніка, які на пытанне:

— А кто здесь голова деревни? — атрымаў такі вось адказ:

— А ў нас, у Райскім Хутары Гаспод за солтыса.

Такім чынам дзедава прывычка давяла да таго, што сёння дарма шукаць на картах свету вёску Райскі Хутар. За абразу чыноўніка, цара, хрысціянства і яшчэ чагосьці там, жыхары былі адпраўлены на далёкі ўсход, а там дзе стаяла вёска, сёння шуміць даволі вялікі ўжо сасняк.

Зусім іншая гісторыя здарылася майму бацьку. Падросткам папаўшы ў Чырвоную Армію, прайшоў з ёю даволі доўгі шлях. Дамоў вярнуўся як сталы, спрактыкаваны чалавек, а дамачадцы адзін раз былі прымушаны выслухаць аповесць, як гэта байцы ішлі на захад. Там, дзе пісьменнік ставіць кропку, цяслярвяху, а ксёндз слова „амэн", там бацька заўжды падымаў громкае: ура! Нікому гэта не перашкаджала, аднак усё да часу.

У 1953 годзе нехта зусім нечакана склікаў сход. Акрамя вядомых усім мясцовых начальнікаў быў якісьці прыезджы чалавек. І менавіта ён прамовіў як першы:

— Браты і сёстры! Учора памёр таварыш Сталін.

Бацька, які адвояваў сваё ў процітанкавай артылерыі, глухі быў, вядома, як пень. Аднак слова Сталін чытаў хіба з вуснаў. А мо адчуваў нейк падсвядома? Ведзены прывычкай, напружыўся як струна, а захапляючае „ура-а-а!" разлілося па-над вуліцай, задворкамі і, забіраючы за сабою хмару кудлатых вераб'ёў, пакацілася далёка, далёка ў поле.

З гэтага няшчаснага сходу бацька вяртаўся гадоў пяць. Канкрэтнай даты, калі ён апынуўся дома, я не ведаю. Помню толькі, што якраз пачынаў я поўзаць на карачках, а бацька быў прыгожа здзіўлены: „Хто ж гэта такі працягвае ручаняты на прывітане?"

Памятаючы непрыемныя эпізоды з жыцця двух пакаленняў, стараюся кантраляваць сябе, абдумваць кожнае слова і кожны жэст.

Усё было ў найлепшым парадку, пакуль не паехаў я ў Маскву. Чаго там наагледаўся, наслухаўся чаго, Бог адзін ведае. Дзе ступіш — усюды таварыш. Дзе глянеш — тое ж сама. Што тут дзівіцца, калі пасля вяртання ў Беласток папрасіў я ў мясным магазіне:

— Таварыш прадаўшчыца, парэжце мне на скрылікі гэты кусок шынкі.

— А покруйце сэ товажышу самі. Серпэм, — адказала тая. І яшчэ ядавіта ўсміхнулася.

І хаця я ведаў, што недахоп памяркоўнасці характэрны людзям, якія нідзе не былі і нікога не бачылі, усё-такі пачаў асцерагацца магічнага слова таварыш. Аказваецца, яно толькі ў Маскве адкрывала мне ўсе дзверы, а тут наадварот, памагала як хваробе кашаль. Памаленьку, паціхеньку, — думаў, — пазбудуся брыдкай хваробы. І пэўна так было б, каб нечакана не нарадзіўся мне сын. Ведаеце самі, калі нараджаецца сын, чалавек дурэе. Гатоў бегчы абы-куды, абы-каму пахваліцца, ды выпіць з кім-небудзь за будучы поспех новага грамадзяніна. Сам ужо не ведаю, якія чэрці (думаю аднак, што партыйныя) занеслі мяне на плябанію! І ледзь адкрыўшы дзверы, гукнуў я на ўсе грудзі:

— Таварыш бацюшка! Сын мне нарадзіўся. Ахрысціць трэба.

Бацюшка паглядзеў на мяне дзіўна неяк, сказаць нічога не сказаў, пакруціў толькі барадатай галавою.

Сына, праўда, ахрысціў у свой час, аднак пасля распытваў тое-сёе пра маю скромную асобу ў нашага раённага лекара.

Ведаю дакладна пра што яны гаварылі. Таварыш санітарка ўсё мне расказала.

**Міхась Андрасюк**

# Што з Музеем?

**Справа будучыні Беларускага музея ў Гайнаўцы не дае спакою не толькі мне (глядзі „Самагубны інстынкт" Мікалая Ваўранюка ў „Ніве" н-р 52 ад 24 снежня 1995 г.), хаця з прычыны далечыні і з гадамі грамадскія справы беларускага асяроддзя Беласточчыны аддаляюцца ад мяне.**

**Беларускі музей у Гайнаўцы паўстаў дзякуючы ахвярнасці беларусаў так з Польшчы, як і з усяго свету. Сабраныя „цаглінкі" зляжылі перад усім гайнаўскія дзеячы на чале з Кастусём Майсеенм, які фактычна, як піша М. Ваўранюк, з'яўляецца „чалавекам-гісторыяй, чалавекам-установай, ініцыятарам і будаўніком Беларускага музея ў Гайнаўцы". Уласнікам музея не можа быць толькі БГКТ, хаця БГКТ з'яўляецца ўласнікам пляца, на якім стаіць музей. Думаю, што найлепшай арганізацыйнай формай для існавання музея быў бы фонд як сукупнасць усіх арганізацый і асяроддзяў беларусаў, якія ўнеслі б у яго ўсе матэрыяльныя рэсурсы. Фонд Беларускага музея існаваў бы як самастойны быт з магчымасцю вядзення гаспадарчай дзейнасці. У склад наглядальнай рады ўваходзілі б прадстаўнікі ўсіх членаў фонду, а штодзённым кіраваннем працай фонду займалася б праўленне, у склад якога ўваходзілі б мясцовыя вопытныя дзеячы. Адным словам Беларускі музей, які ўжо стаіць у Гайнаўцы, не можа быць уласнасцю ні БГКТ, ні Грамадскага камітэта пабудовы, ні нейкай прыватнай асобы. Усе, каму ляжыць на сэрцы гэтая справа, павінны публічна аднесціся да маёй прапановы (або прапанаваць штосьці іншае). Здзейсніць прапанову можа цяперашні Грамадскі камітэт пабудовы, які падрыхтаваў бы ўсе патрэбныя дакументы для рэгістрацыі ў судзе Фонду Беларускага музея.**

**А так пры нагодзе хацеў бы я запытаць, чаму не пытаўшы нікога Галоўнае праўленне БГКТ і Грамадскі камітэт пабудовы Музея незалежна (? — М. К.), у дэмакратычным галасаванні прынялі пастанову, што музей будзе дзяржаўнай установай без перадачы яго дзяржаве на ўласнасць, а ўласнікам аб'екта пасля заканчэння яго будовы будзе БГКТ? Пры чым тут дэмакратычнае галасаванне, калі адна арганізацыя прыдумала, што можа прыняць на ўласнасць будынак, які паўстаў са сродкаў усіх беларусаў, не толькі членаў БГКТ? Мы тут у Гданьску можам таксама сабрацца і дэмакратычна перагаласаваць, што будынак будзе ўласнасцю гданьскіх беларусаў. А варшаўскія ж беларусы горшыя? Андрэй Гаўрылюк з Ольштына таксама дэмакратычна можа пераняць будынак для мазурска-прускіх беларусаў!?**

**Міхась Куптэль**

# Малаважная справа

У палове снежня мінулага года нашу рэдакцыю наведала спадарыня Вера Каральчук, жыхарка Шчэціна. Яна нарадзілася і сваю маладосць правяла на Беласточчыне, толькі лёс, як і шмат іншых беларусаў, кінуў яе ў другі край дзяржавы. Спадарыня Вера недзе пачула, што ў Беластоку ёсць упаўнаважаны ваяводы па справах нацыянальных меншасцей, у якога хацела шукаць парады ў вырашэнні сваіх праблем. Такога размоўцы, як вядома, ў Беластоку не было, тады вырашыла яна расказаць гісторыю, якая нехаторым беластоцкім беларусам можа здацца ўжо добра вядомай.

Пару гадоў таму назад спадарства Каральчукі купілі спадарожнікавую антэну, каб мець магчымасць глядзець беларускае тэлебачанне. — Дзеці сталі даросламі і хацелася б, каб маглі яны мець кантакт са сваей культурай, ды родным словам, — сказала пані Каральчук. У Шчэціне няма ні беларускіх школ, ні радыёперадачаў, ні арганізацыі, якая ствапала б магчымасць хаця б пагаварыць на роднай мове. Тэлебачанне было як бы акном да нечага роднага, кантактам са светам продкаў. І ўсё было добра, пакуль адміністрацыя жыллёвага кааператыва „Dąb" у канцы 1994 г. у сувязі з рамонтам даху будынка, у якім жыве спадарыня Каральчук з сям'ёю, не загадала ліквідаваць усе прыватныя антэны, а ў іх месца запланавала паставіць адну агульную для цэлага будынка. Антэна гэтая давала магчымасць прымаць дзве праграмы польскага тэлебачання і некалькі каналаў нямецкага. Пасля рамонту адміністрацыя забараніла ставіць прыватныя антэны, каб не парушаць канструкцыі даху.

Ужо год часу спадарства Каральчукі змагаюцца з бюракратамі з кааператыва „Dąb" за дазвол карыстацца правам на сваю ўласнасць. Адказ на ўсе капетыцыі кіраваны да адміністрацыі быў заўсёды аднолькавы: не дазваляем таму, што антэна псуе дах. Каральчукі адказваюць, што гатовыя плаціць за ўсю знішчаную маёмасць, калі толькі страты ўзніклі б у выніку замацавання на даху іх антэны.

З пункту гледжання большасці жыхароў будынка справа гэтая зусім малаважная. Яны не вымушаны змагацца за які-небудзь кантакт са сваей культурай, наадварот культура шукае кантакту з імі. Для людзей, якія за ўласныя грошы купілі дарагую антэну, каб пры яе дапамозе мець сувязь з усім, што блізкае ім сэрцу, бяздушнасць бюракратаў можа выклікаць пачуццё роспачы.

Хаця нельга пры гэтай нагодзе нічога абагульняць, але колькі падобных аргументаў прадстаўляла адміністрацыя беластоцкіх жыллёвых кааператываў, калі пазбаўлялі мясцовых беларусаў магчымасці глядзець мінскае тэлебачанне. На ўсялякія пратэсты заўсёды адказвалі, што няма адпаведных тэхнічных умоваў. Раней былі, але раптам недзе зніклі. А ўсё гэта дзеецца ў час, калі праводзіцца акцыя „Antena na wschód", якой сэнс — стварыць палякам у Беларусі, Літве, Украіне, Казахстане ўмовы для прымання ўсіх праграм польскага тэлебачання. Герой рамана Сянкевіча „W pustyni i w puszczy" — Калі — нечакана стаў для некаторых галоўным маральным аўтарытэтам.

**Я. М.**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Любіцелі роднага слова

Тыя, што наведалі бельскую „тройку” 19 снежня мінулага года, заўважылі, што ў школе пануе святочны настрой, а прызнакам гэтага былі па-святочнаму апранутыя дзеці. У гэты якраз дзень адбываліся школьныя элімнацыі дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова”. А паколькі ўсе дзеці пачынаючы з другога класа вывучаюць тут беларускую мову, дэкламатараў сабралася вельмі многа. Ажно 96 вучняў з усіх класаў (уключна з першым!) прыступілі да конкурсу. Ахвотных выступіць было больш, але некаторыя не маглі прыняць удзелу з-за хваробы.

Самае цікавае, што нават самыя малыя дзеткі падрыхтавалі вершы. Усе яны — вучні класа I „б”: Агата Скепка, Матэвуш Карчэўскі і Міхал Шаранос. Хлопцы так выдатна дэкламавалі, што перамаглі ў школьным аглядзе і выступяць на раённых элімінацыях.

А з самога IV „е” класа ў конкурсе прымала ўдзел 16 вучняў. Як і заўсёды многія дэкламавалі



*Дэкламатары з класа III "ц".*



*Сяброўкі з класа III "б" — Юлітка Гліва і Магда Лазовік (са сваім зайчыкам).*

вершы Віктара Шведа. Не менш папулярнай аўтаркай аказалася Эдзі Агняцвет.

Некаторыя вучні ўдзельнічаюць у конкурсе чарговы раз. Гэта: Наталька Сушч і Агнешка Селеванюк з IV „д”, Тамаш Галёнка і Анэтка Леанкевіч з IV „е”, Жанэта Роля з V „а”, Юліта Муха, Сабіна Пухальская, Марта Орда з V „д”. Да іх далучаюцца ўсё новыя вучні і дэкламатараў становіцца штораз больш і больш. Мне вельмі спадабаліся выступленні Эвеліны Карчэўскай з II „ц” і Ані Апалінскай з III „д”. Камісія не хацела нікога вылучаць, але ведаю, што вельмі падабаліся выступленні Жанэткі Ролі, Эвы Вязоўскай (III „б”) і Юліткі Башун (III „а”). Пасля доўгіх нарадаў камісія вылучыла 35 вучняў, якія будуць „бараніць добрае імя школы” на раённым аглядзе.

А на другі дзень, 20 снежня, выступалі старэйшыя вучні. Было іх 39 чалавек, з якіх 12 прымуць удзел у раённых элімінацыях. Сярод іх ёсць вучні вядомыя з мінулагодняга конкурсу: Пятро Лук'янюк з VI „б”, Моніка Калішэвіч, Натальк Прызовіч і Галена Сідэвіч — усе з VII „ц” класа. Як мне стала вядома, „Пагоня” ў выкананні Натальці найбольш спадабалася дырэктару школы Васілю Ляшчынскаму.

Цяпер з вялікім хваляваннем будзем чакаць чарговага этапу конкурсу „Роднае слова”. Шчыра жадаем поспехаў юным бельскім дэкламатарам!

**Аліна Ваўранюк**
**Фота аўтара**



*Адзін з наймалодшых дэкламатараў — Матэвуш Карчэўскі з класа I "б".*

*ЮЛЬЯН ТУВІМ*

## Мароз

У рэзкі мароз хлопец вёз
З лесу галлё на возе.
Скрыпіць штось, вось не вось,
Галля трэск на марозе.

Мацнеў мароз, віхор узрос,
Бег быццам у ста коней.
Трашчыць воз, трашчыць мароз,
Хлапец зубамі звоніць.

Кляча бр! Хлапец ёй: прр! —
Дарога ўсё скрыгоча.
І свішча вецер і пуга,
Капыты стукочуць.

Хруст і звон, скрогат, стогн,
Шум быццам на заводзе.
Слабей мароз, лягчэй воз,
З той музыкай у згодзе.

*Пераклаў Віктар Швед*

## Вучнёўская творчасць

**Прывітанні Табе, „Зорка”!**

Гэты верш я напісала пад вялікім уражаннем паэзіі Максіма Багдановіча. Яго вершы непаўторныя, захапіла мяне яго адданасць Роднай Старонцы. Я рашыла таксама скласці „гімн” Роднай Беласточчыне.

### Родны кут

Хто гэта Ты,
Беласточчына?
Як мне Цябе апісаць?
Якое ў маладым маім
сэрцы
Месца Табе аддаць?

Беласточчына, Ты
Лес і рака,
Поле і дарога.
Хлеб і вада.
Ты — мова родная.
Песня, якую спяваем.
Зямля, якую кахаем.
Мы Цябе ў сэрцы маем.

**Жанэта Роля,**
клас V „а”
бельскай „тройкі”

## Загадкі з роднай хаткі — н-р 1

1. Сядзіць Маруська ў сямі кажушках, хто яе распране, той заплача.
2. Хутка бяжыць, што не дагоніш.
3. Шасцёра працуе, а сёмы адпачывае.
4. Без рук і без ног, а вокны малюе.
5. Чатыры тычкі, два патычкі, а сёмае памахайла.

Гэтыя загадкі даслала Юліта Вэршко, вучаніца класа V „е” бельскай „тройкі”. Адказы дашліце ў „Зорку”.

**Рашэнне загадак н-р 5:** цыбуліна, дыня, морква, макаўка.

Узнагароду — кніжку „Заклятыя скарбы” выйграла **Кася Наскоўская** з Нарвы. Кніжку Ленэ Маер-Скуманц „Калі ты так думаеш, Божачка” атрымае таксама **Юліта Вэршко** за конкурсную ініцыятыву.

*Мікола Гайдук*

# Продкі беларусаў

**Каханыя чытачы „Зоркі”**

*З гэтага нумара пачынаем друкаваць гісторыю Беларусі, якую спецыяльна для вас напісаў Мікола Гайдук. Зацікаўленых цыклам раім збіраць усе адрэзкі. Будуць яны вялікім дапаможнікам у вывучэнні гісторыі Беларусі. Чакаем таксама вашых водгукаў на гэтую тэму.*

З-ка

**Беларусы належаць да ўсходніх славян**

Дзе цяпер жывуць беларусы, здаўна жылі розныя неславянскія плямёны. Яны выцяснялі адны другіх, мацнейшыя перамагалі слабейшых. Каля VI стагоддзя па Нараджэнні Хрыста, або нашай эры, на гэтых землях жылі продкі балцкіх плямёнаў, сваяцкія славянам. Сюды таксама, як лічыць большасць вучоных, прывандравалі з міжрэчча Дняпра і Буга мнагалюдныя і моцныя славянскія плямёны. Яны кіраваліся з поўдня і захаду на поўнач і ўсход, паступова займалі ўсё новыя абшары. Пасоўваліся шляхамі, раней пракладзенымі іншымі плямёнамі, ішлі ўздоўж рэчак і рэк, берагамі азёраў, пасяляліся пераважна на слаба загаспадараных месцах, бязлюдныя лясныя нетры замянялі ў палеткі і сенажаці.

Пад націскам наступаючых славян большасць балтаў адыходзіла бліжэй Балтыйскага мора. Частка іх загінула ў бітвах, баронячы ранейшыя свае сялібы. Рэштка засталася жыць сярод славян. Жывучы ўперамешку, славяне і балты з часам пераняли адны ад другіх шмат што ў мове, звычаях, абрадах, вырабе розных рэчаў, гаспадарцы, будаўніцтве. Людзі парадніліся і перамяшаліся. Так са спалучэння славян з рэшткамі балцкіх плямёнаў паволі ўтварыліся беларускія плямёны, адметныя ад іншых усходніх і заходніх славянскіх плямёнаў. Такім чынам паўсталі тры плямёны: крывічы, дрыгавічы і радзімічы, яны далі пачатак беларускаму народу. Па паходжанні, мове і занятках усе яны былі сабе роднасныя. Аднак кожнае з іх жыло на асобнай тэрыторыі, розніліся ад другіх некаторымі асаблівасцямі мовы, характару, звычаяў.

Самым вялікім і магутным племем былі крывічы. Яны *сядзелі на версе Волгі, і на версе Дзвіны і на версе Дняпра*, — паведамляе летапіс. Крывічы займалі аграмадны абшар: сённяшнюю Полаччыну, Смаленшчыну, Пскоўшчыну, частку Маскоўскай вобласці. Назву *крывічы* займелі або ад імя свайго правадыра Крыва, або ад слова *крэўныя* (родныя па крыві). Яны былі згуртаваным і энергічным племем, нястомна пашыралі свае уладанні, на захадзе пранікалі нават на тэрыторыю сённяшняй паўночнай Бела-



Талон "Зоркі" н-р 3
21.01.1996

# Сябры з Махнатага



Пасля сустрэчы з вучнямі Пачатковай школы ў Махнатым асталіся добрыя ўспаміны. Многа тут нашых чытачоў, асабліва сярод вучняў пятага і шостага класаў.

— Найбольш любім рашаць загадкі, — прызналіся нашыя сябры з Махнатага.

Пра складанасці пры разгадванні загадак пераканаліся многія чытачы нашай старонкі. Але ў Махнатым нямала амбітных, старанных вучняў.

Сёння пазнаёмімся з выдатнікамі (яны ўсе на здымку), вучнямі чацвёртага і пятага класаў.

Малгажата Калішук, Аня Далінская, Кася Куптэль і Марцін Сельвясюк не толькі чытаюць кожны нумар „Зоркі", але і цікавяцца ўсім, што беларускае. Хаця яны вучні чацвёртага класа, добра гавораць на літаратурнай мове. Дарэчы, яны выдатнікі па ўсіх прадметах.

У пятым класе вылучаюцца Ася Германовіч, Галіна Шварц і Ігар Дзікевіч.

— Ася вельмі старанна піша, — пахваліла дзяўчынку настаўніца Зіна Сельвясюк.

Названыя класы самыя вялікія ў школе. Разам у IV і V класах 17 асоб. Амаль усе дзеткі вывучаюць беларускую мову.

**З-ка**

## Малюнкі школьнікаў

Друкуем самыя цікавыя працы паводле казкі „Пра лянівых старэч". Намалявалі іх:

1) **Марцін Васілюк**, вучань III кл. ПШ у Курашаве,
2) **Камілля Лабузінская** з Кленік.

У конкурсе прыняло ўдзел вельмі многа дзяцей. Усе яны ўдзельнічалі ў жараб'ёўцы ўзнагарод — каляровых алоўкаў. Выйгралі іх:

1) **Павел Сергяюк** з Орлі,
2) **Марцін Шварц** з Ласінкі,
3) **Павел Несцярук** з Курашава.





## Польска-беларуская крыжаванка н-р 3

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ZUPA ↘ | URAZ ↓ | BRZUCH, BEBECH ↓ | BAR ↓ | PIHO ↓ | | ŁYKO ↓ |
| | | | | | DÓŁ, SPÓD. ↓ | |
| RUBIN → / PLECIONY UL Z WIKLINY ↘ | | | | | | |
| | | | | | | |
| ZARAZA → | | | | | | |

* НАШ СЛОЎНІК: ЛАЗАВІК – UL PLECIONY Z WIKLINY

**Адказ на крыжаванку н-р 11:** пах, халоп, рыба, качан, гара, лыч, асоба, пан.

Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі:
1) **Бэата Мінько** з Ласінкі,
2) **Іаанна Германовіч** з Махнатага,
3) **Марта Федарук** з Бельска-Падляшскага,
4) **Веслаў Калішук** з Курашава,
5) **Эмілія Сухадола** з Нарвы,
6) **Анэта Леанкевіч** з Бельска-Падляшскага,
7) **Марцін Васілюк** з Курашава,
8) **Анэта Пашкоўская** з Кленік,
9) **Аня Банькоўская** з Навін,
10) **Анэта Таранта** з Бельска-Падляшскага.

Віншуем!

# Пошукі брацікa

Здарэнне, пра якое пішу, адбылося 11 жніўня мінулага года, а яго героем быў мой малодшы брат.

Недзе каля поўдня мне і сястры Еве мама загадала крыху папільнаваць двухгадовых блізнят — Юстыну і Адама. На пляцы перад блёкам мы з сябрамі і сяброўкамі весела бавіліся ў розныя цікавыя гульні і забавы. Праз нейкі час я заўважыў, што сярод нас на падворку няма майго брацікa. Пачаліся пошукі. Бегалі мы ўсюды, заглядалі ва ўсе блёкі, распытвалі знаёмых. Памагалі нам усе хлопцы і дзяўчынкі. Некаторыя ездзілі на роварах. Мама і тата шукалі на суседніх вуліцах і каля ракі. Мінула паўгадзіны, а брата так і не знайшлі.

Рашыў я тады пабегчы далёка ў цэнтр горада. Набліжаючыся да ратушы, раптам убачыў я нашага Адася. Вялі ўжо яго нейкія старэйшыя хлопцы з маёй школы. Брат не плакаў. Падзякаваў я хлопцам і падаліся мы дадому. Па дарозе сустрэлі заплаканую маму.

Калі вярнуліся, тата загадаў купіць кілаграм добрых цукеркаў для сябroom і сяброўак. Так я і зрабіў.

Здарэнне з двухгадовым братам нямала мяне навучыла. З таго часу заўсёды старанна пільную нашых блізнят.

**Дарэк Баена,**
**вучань IV „б" класа**
**бельскай „тройкі"**

сточчыны і ўсходняй Сувальшчыны. У Крывічоў спраўна развівалася земляробства і гадоўля жывёлы, рамяство, гандаль. Яны славіліся вырабам моцных лодак з тоўстых камлёў старадрэвін. У такіх *аднадрэўках* падарожнічалі і перавозілі розныя тавары па тадышняй густой сетцы рэк, рэчак, азёраў, падаваліся ў далёкія вандроўкі па Балтыйскім, а нават Чорным, Каспійскім і Белым морах.

Паўднёвыя суседзі крывічоў — гэта **дрыгавічы**, яны *сядзелі паміж рэкамі Прыпяцццю і Дзвіною*, — расказвае летапісец. Дрыгавічы займалі цэнтральную, паўднёвую і заходнюю часткі Беларусі, таксама тэрыторыю сённяшніх ваяводстваў Бяльска-падляшскага, усходнія часткі Сядлецкага і Ломжынскага і ўсяго Беластоцкага. Адны вучоныя мяркуюць, што назва *дрыгавічы* ўзялася ад дрыгвы — топкага балота, багны, сярод якое пераважна знаходзіліся іхнія сялібы, другія лічаць, што яна паходзіць ад імя іхнага старэйшыны Драга або Драгавіта.

Дрыгавічы займалі даволі ўраджайныя землі, надрэчныя лугі, лясы з разнастайнымі дрэвамі, месцы з вялікімі пакладамі гліны, крэйды, балотнай руды — ўсё гэта было падставай сельскай гаспадаркі, рамёстваў, бортніцтва, паляўніцтва. Ціхія і глыбокія рэкі і рэчкі былі кладоўкай рыбы, птаства і зручнымі шляхамі для сувязі ўнутры племя і з далейшымі суседзямі.

На ўсход ад дрыгавічоў жылі радзімічы. Яны былі невялікім племем і насялялі міжрэчча Дняпра і Дзясны. Некалі іх узначальваў правадыр Радзім або Радзімір. Ад гэтага імя і атрымала назву ўсё племя. Зямля ў яго была малаўраджайная, таму яно імкнулася на ўсход, на абшары ўрадлівага чарназем'я. Там трэба было ім бараніцца ад стэпавых качэўных плямёнаў, а часам даваць ім даніну.

На поўначы і ўсходзе ад беларускіх жылі славянскія плямёны славенаў, вяцічаў, севяранаў, яны разам з паўночнай і ўсходняй часткамі крывічоў потым склалі расейскі народ. На поўдні жылі таксама славянскія валыняне, драўляне, паляне, углічы, на іх землях пазней паўстаў украінскі народ. На захадзе з беларусамі суседзілі заходнеславянскія мазаўшане і неславянскія балцкія плямёны яцвягаў, аўкштотаў, латгальцаў.

### Практыкаванні.

*1. Хто жыў на сённяшніх беларускіх землях да прыходу ўсходніх славян? Што сталася з балтамі?*

*2. Як паўставалі беларускія плямёны?*

*3. Якія плямёны далі пачатак беларускамсу народу?*

*4. Пакажы на карце, дзе жыло кожнае з беларускіх плямёнаў.*

Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку.

Усходнеславянскія плямёны вандравалі з міжрэчча ............... і ............ на ................. і ................ . Яны рассяляліся на землях, дзе жылі .................. . Крывічы, дрыгавічы і радзімічы былі сабе .............. . Крывічы займелі назву ад .................. або ад ..........., дрыгавічы — ад ................ або ад ..............., а радзімічы ад ....................... .

# Нельга пысу зваць мухаедам

*Працяг са стар. 4*

„Басовішчы", для прыкладу, вельмі часта здараецца, што адзін п'янюга дасць па зубах іншаму, але ў гэты момант усё падабенства канчаецца. Здараецца гэта ноччу, недзе ў кустах, ніхто гэтага не бачыць, нікога гэта не абыходзіць. У Бельску „клеенне па мухаедах" стала публічным сорамам. І нечага тут скрываць — здарылася яно ў выніку неабачлівасці арганізатара фестывалю, які загадзя не прадумаў такога ходу справы, не падрыхтаваўся на такую акалічнасць. А ў выніку — сталася тое, што сталася. Апынуліся мы ў сітуацыі, якая і сарамлівая, і дурная, і... тыпова беларуская. Замест спакойна вылізаць піва, якое разлілося, падаюць зрэзаныя галовы ды крамзоляцца адмысловыя заявы і пратэсты. Можна тут запытаць, а што ЗБМ скарыстаў на выступленні з Беларускага саюза? Мабыць, знайшоў віноўніка за свой промах.

М. Ваўранюк, напісаўшы справаздачу з „бардаўскай восені" (першая старонка ў „Ніве"), накіраваў таксама згаданую на пачатку фельетона нататку (апошняя старонка), якая і адкалола ЗБМ ад плыні беларускага руху. Малой хіба пацехай будзе сцвярджэнне, што сітуацыі, якая так зграбна кладзецца пад пяро, не прапусціць ніводзін журналіст (глядзі таксама: паклёпніцкі С. Абух). Вінаваціць журналіста ў сваім арганізацыйным недахопе — вялікае пераўвелічэнне. Праз год ніхто не будзе памятаць, што хтосьці там пра нешта напісаў. Частка публікі запамятае аднак напэўна ўсю безгустоўнасць бойкі на „Бардаўскай восені", а ў сувязі з гэтым перад ЗБМ стаіць сапраўды сур'ёзнае пытанне: як пераканаць гэтую публіку, што „Бардаўская восень" усё-такі культурнае мерапрыемства, на якое варта прыйсці.

Калі ўжо нехта хоча сапраўды за нешта абражацца, то толькі за няшчасныя „мухаеды". Мух з'ядаем у дзяцінстве, а не ў маладосці.

**Аляксандр Максімюк**

# Тыдзень малітваў аб еднасці хрысціян

У днях 18—25 студзеня штогод па ўсім свеце адзначаецца Тыдзень малітваў аб еднасці хрысціян. З ініцыятывай такіх сумесных багаслужбаў выступілі ў саракавыя гады Спэнсэр Джонс і Левіс Уотсан. Да пашырэння Тыдня экуменічных малітваў прычыніўся таксама а. Павел Кутэр'е, які сфармуляваў вядучы прынцып: імкнуцца да еднасці, якой жадае Хрыстос, і сродкамі, якія Ён акрэсліў.

Евангелле ўвекавечыла адназначны заклік Хрыста, каб усе Ягоныя вучні „былі адно" (Іаан, 17:20). „Па гэтым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў адзін да аднаго" (Іаан, 13:35). Бясспрэчна, якраз недахоп любві, якім хрысціяне не выконваюць галоўнага запавету, стаў прычынай адсутнасці еднасці. Свет адчужаны ад Бога і падзелены сам у сабе. Тым часам Хрыстос прынёс Сябе ў ахвяру за ўсё чалавецтва, не за нейкую выбраную групу людзей, і ласка дадзена была ўсім раўнамерна. Царква была паслана ў свет, каб быць слугой любові і прымірэння, каб была універсальнай грамадою, па-над усемагчымымі розніцамі расы, нацыянальнасці і культуры. Самыя людзі дапусцілі аднак, што раскол пранік і ў Царкву. Яна безупынна апавяшчае Евангелле Прымірэння, аднак на самой справе не раз дзейнічала насуперак свайму апавяшчэнню. Сам раскол унутры Царквы пярэчыць яговай суттнасці і робіць дарэмнай ягоную місію. Яшчэ шмат засталося зрабіць; яшчэ не ўсе народы ахрышчаны, а там, дзе хрысціянства існуе ад стагоддзяў, яно часта толькі намінальнае — самыя хрысціяне замала ахрыстоўлены.

Усведаміўшы ўсю супярэчнасць паміж тэорыяй і практыкай, хрысціянскія цэрквы вырашылі спыніць адмоўны працэс узаемнай адчужанасці і далейшага аддалення. Для шмат каго стала ясным, што падзелы дыскрэдытуюць хрысціянства і шкодзяць ягонай місіі згодна прынцыпу: „Лекар, спярша вылеч сябе самога". У якасці своеасаблівага „дакору сумлення" узнік, адносна нядаўна, — бо ў першай палове XX стагоддзя — экуменічны рух. Само паняцце „экуменізм" паходзіць ад грэчаскага слова „экуменікос" (агульнасусветны) і абазначае яно рух, які імкнецца да аб'яднання хрысціян усяго свету.

Ад самога пачатку экуменічны рух напатыкае шматлікія перашкоды. Шматвяковая ізаляцыя стала прычынай таго, што цэрквы розняцца паміж сабою ў сэнсе догмаў, абрадаў, традыцыяў і нават самога погляду на еднасць. Рымакаталікі разумеюць прынцып „адзінае стада і адзін пастыр" як падпарадкаванне ўсіх Рыму, у час калі іншыя канфесіі бачаць еднасць не ў вяртанні адных да другіх, але ў вяртанні да супольных крыніц, да Евангелля і Хрыста. Пакуль што ўсіх аб'ядноўвае адно Святое Пісанне. Аднак калі пачынаюць яго чытаць, усе інтэрпрэтуюць яго па-рознаму. Экуменічны рух вельмі павольна прабіваецца таксама праз гушчар прадузятасцей, узаемных крыўдаў і прэтэнзіяў. У мінулым, не раз еднасць ажыццяўлялася дзеля зямных мэтаў і скампраметаванымі сродкамі: шляхам сілы або каварства. Таму з палёгкай і нават з узрушэннем успрыняты быў факт, калі ў 1965 годзе папа Павел VI і патрыярх Афінагор абмяняліся мірнымі пацалункамі і скасавалі ўзаемныя адлучэнні ад Царквы з XI стагоддзя. Абнадзейвае таксама тэалагічны дыялог, падчас якога тэолагі прабуюць нівеліраваць дактрынальныя разыходжанні.

Тым не менш, Канстанцінопаль і Рым даволі далёка ад Беларусі, а тэолагі могуць дыскутаваць дзесяцігоддзямі. Звычайным вернікам, не азнаёмленым з дагматычнымі нюансамі, застаецца ажыццяўляць практычны экуменізм у штодзённым жыцці, пераадольваць фанатызм, узаемныя прадузятасці і недавер. Духоўны экуменізм, на які апошнім часам настойваюць амаль усе бакі, заключаецца ў адмаўленні ад усякага празелітызму, пыхі і ганарлівасці. Тэолагі могуць спрачацца пра дактрыны, аднак хто мае слушнасць ведае толькі Бог. Проста кожнага чалавека трэба лічыць братам. Ён часта без свайго ўплыву быў ахрышчаны ў сваёй Царкве і зжыўся з ёю. Калі захоўвае ў сваім жыцці ўсё, што сапраўды хрысціянскае, дасягне святасці і збаўлення.

Пажадана, каб сёлетні Тыдзень малітваў за еднасць хрысціян пашырыў сярод усіх вернікаў такое вось разуменне экуменіі.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Адышоў жаўнер

**28 снежня 1995 года на 89 годзе жыцця памёр жаўнер Рэчы Паспалітай Польскай, сяржант запасу Уладзімір Аўгустынчык.**



*Уладзімір Аўгустынчык з ордэнам Св. Марыі Магдаліны.*

26 жніўня 1939 года быў ён прызваны як запаснік у Войска Польскае і да 20 верасня 1939 г. прымаў удзел у змаганнях з немцамі. 21 верасня разам са сваёю часцю папаў у савецкі палон, дзе знаходзіўся да часу падпісання генералам Сікорскім польска-савецкага дагавора. Пасля ўступлення ў Войска Польскае ў Савецкім Саюзе апынуўся на Блізкім Усходзе. Разам з II Корпусам трапіў у Італію. Там атрымаў ён прыкамандзіраванне да артылерыйскага палка 5 Крэсавай пяхотнай дывізіі і прымаў удзел ва ўсіх яе баях, пачынаючы з Монтэ-Касіна, а канчаючы на асвабаджэнні Балоны. Змагаўся ён такім чынам за Польшчу з 1 верасня 1939 г. па 21 красавіка 1945 г., нягледзячы на раненні і кантузіі. Яму быў прысвоены Krzyż Walecznych і іншыя польскія і англійскія ваенныя ўзнагароды.

У 1947 г. вярнуўся ён у родную вёску — Паўднёвы Востраў, дзе прысвяціў сябе земляробству і выхоўванню дзяцей.

Галоўныя свае зацікаўленні — яшчэ з даваенных гадоў — накіраваў ён на камплектаванне дакументаў і здымкаў, якія адлюстроўвалі ягонае жыццё, асабліва перыяд ваеннага ліхалецця. Сабраў імпазантны фатаграфічны архіў і многа каштоўных памятак.

Пасля вайны шматкратна — апошні раз вясною 1995 г. — наведваў магілы сваіх калегаў, праваслаўных салдат, на італьянскіх могілках у Каса-Масіма, Монтэ-Касіна, Ларэта і Балоны.

Быў шчырым паслядоўнікам праваслаўя. Сваю прывязанасць да праваслаўнай рэлігіі падкрэсліваў пры кожнай нагодзе. У час вайны падтрымоўваў цесныя сувязі з генералам епіскапам Савам (Саветавым) — галоўным праваслаўным капеланам II Корпуса. Іх працягам была дружба з цяперашнім Ардынарыем Праваслаўнага Ардынарыята Войска Польскага архіепіскапам Савам.

Уладзімір Аўгустынчык наведаў мяне ў кастрычніку 1995 г., каб паказаць мне Ордэн Св. Марыі Магдаліны, які атрымаў ад архіепіскапа Савы і новы вайсковы мундзір, які пашыў сабе некалькі месяцаў таму. Была гэта нашая апошняя сустрэча.

Адышоў сумленны, высакародны чалавек, мой верны адпалчанін з італьянскага фронту.

**капітан запасу Ірэнэуш Крчаль,**
**былы жаўнер**
**Польскіх Узброеных Сіл на Захадзе**
**Фота аўтара**

# Згарэла хатка...

Згарэла хатка ў вёсцы Масева, у Белавежскай пушчы. Такіх хатак тут шмат, больш іх тут будзе, здаецца, чым людзей. Чым *душ жывых*, як кажуць людзі пра людзей. Але калі б лічыць, як належыцца, усіх душ жывых — і жывёл, што дажываюць век разам з гаспадарамі, і тых, што ўзімку з Пушчы прыходзяць пажывіцца пры ўсё меншых, уклякатаных абарогах і на палетках — то вёска Масева яшчэ не такая і малая і ўсё яшчэ жывая, хоць столькі ўжо хатак глядзяць сваімі пакрыўджанымі пустымі вачніцамі старэчаў на лес, які падыходзіць усё бліжэй да заплоццяў, шуміць не вельмі дружалюбна, а больш патрабавальна і злосна. Але і ён хворы і пакрыўджаны, ад вякоў ачужэлы і адрынуты, хоць і добры, і шчодры — у яго бралі і адбіралі, днём і ноччу, душылі і стралялі, секлі і рэзалі, чавілі цяжкімі коламі карэнне, галінкі і натруджаныя спіны мурашак.

— Людзі ў нас жывуць паціху, — кажа Н., — і найлепш было б, калі б нас не чапалі. Няма пра што тут пісаць і гаварыць! Тутэйшы народ спакойны, звады не любіць, але і не любім, каб на галаву хто нам залазіў.

— Людзі ў вас жывуць добрыя.

— Як і ўсюды — і добрыя, і горшыя. Так заведзена ў свеце, што ўсяго ёсць пакрысе. Каб параўнанне было, каб чалавек адрозніў дабро ад зла, чорнае ад белага. І зусім жа кепскіх, нялюдскіх, як кажуць, людзей няма, ну, можа трапляюцца дзе якія дэгенераты, але такіх па турмах шукайце. Я не памятаю, каб сярод нашых які *абсалютно* паганы чалавек быў. Калі хто кепска рабіў, то з дурноты, або з бяды вялікае. Бо як жа ж тут можна жыць з чорным сэрцам, калі наўкол — краса такая? *Такога ліесу ў сьвіецці німа!*

Лес. Пан Лес, як кажа паэт Анатоль Сыс. *Бо Лес — гэта больш, чым лес. Вам ранілі гострым сэрца, крывавіць, баліць парэз, і хочацца толькі смерці, стрывайце, знайдзіце моц...*

Каму хочацца смерці ў свае дваццаць, сорак, дзевяноста?.. Не слухайце тых, хто енчыць і кліча ў смерці ратунку ад нясцерпнага болю! Калі жывеш, адчуваеш. Адчуваеш — жывеш! Нават той, хто сам надзявае сабе пятлю на шыю ці кідаецца на брук — жыць хоча. Інакш хоча жыць — не так, як жыў дагэтуль. Можа там, з Тага Боку, ёсць надзея, радасць, каханне, святло?.. Той, у каго ёсць час перадумаць хвіліну свайго пераходу ў Іншы свет, чакае... баіцца... лічыць хвіліны да таго або ад таго ў іншы бок, моліцца... А каго смерць схопіць сваімі клешчамі ў агні, дыме, як Дзеда Д.?

Маладыя кажуць: „Ну, нажыўся, аджыў сваё. Час прыйшоў. Няўжо дачакацца нам яго гадоў! Ну, і смерць хуткая: пакуль спапялеў, агонь яму дых заняў, пакуль Дзед кінуўся на парог хаты!"

Не змог Дзядуля перапаўзці, пераскочыць парог старой хаты. Парог гэты пералазіў дзіцём. Праўда, хату паставілі новую, другую ўжо ад таго часу, але парог заўсёды клалі ў тым жа запаветным месцы, памечаным камянямі. Не дапоўз Дзедка, задыхнуўся, прывалены падаючымі бэлькамі. Бабулі ўдалося прадзерціся паміж языкамі агню — ахінулася коўдрай і радзюжкамі, звалілася апечаная пад плотам на свежы снег. З Дзеда астаўся абгарэлы кадлубак, Бабу „скорая" павезла ў бальніцу ў Гайнаўку.

Няма хаткі. Няма Дзедка. Ягоныя дзеці ўжо пенсіянеры, самі просяць ратунку. І ўнукі ёсць, ужо дарослыя, але яны не ёсць родныя дзеці і ўнукі Бабулі — узяў яе Дзед за другую жонку. Куды вярнуцца Бабе?

Куды цяпер ісці Бабулі? Акрыяла яна ў бальніцы, падлячылі ёй вочы і скуру, выгналі пярэпалах з сэрца і галавы лякарствамі. Такая моц у дактароў, сучасных чараўнікоў. Сотні гадоў таму вазілі нават князёў да ведуна-Бабы з Бабінай Гары ў Пушчы, прагавяў ён з цела і душы хваробу словам, рукою і зеллем, — якую хочаш. А цяпер ніякай моцы няма, каб хто ішоў у Наш Бок лекавацца, хоць называюць наш край Лёгкімі ды Зялёнымі... І не хочуць Бабулю ўзяць у апеку ні ейныя пасынкі, ні ўнукі мужавы, якіх сама няньчыла, а думаюць аддаць яе ў апеку *Паньству*.

Не той Лес расце, што калісьці. Пабілі яго, парэзалі, паранілі, як і нашы душы.

**Міра Лукша**

# Беласток — горад эканамічнага супрацоўніцтва

*Расказвае д-р Анджэй Гаеўскі, беластоцкі ваявода*

На развіццё эканамічнага патэнцыялу Польшчы несумненны ўплыў аказалі не толькі сістэмныя і арганізацыйныя перамены, накіраваныя на развіццё свабоднага рынку, але таксама і рэвалюцыйныя змены на рынках суседніх краін.

Беластоцкае ваяводства, асабліва горад Беласток — сталіца паўночна-ўсходняга рэгіёна, поўнасцю абгрунтавана імкнецца стаць гандлёвым цэнтрам еўрапейскага маштабу. Асноўным козырам рэгіёна з'яўляецца перш за ўсё геаграфічнае палажэнне: непасрэдная граніца з Беларуссю, блізкасць граніцы з Літвой і Калінінградскай вобласцю, а таксама здаўна існуючыя і цяпер нанава наладжваемыя сувязі з Усходам, падтрымоўваныя растучай зацікаўленасцю Беластоцкім ваяводствам заходніх дзяржаў.

Пралягаючыя цераз Беласток дарожныя і чыгуначныя камунікацыйныя шляхі міжнароднага і ўнутранага значэння, пагранічныя пераходы ў Кузніцы-Беластоцкай, Бабpоўніках і Полаўцах, свабодная эканамічная зона ў горадзе Саколка ў 16 км ад польска-беларускай пагранічнай паласы, тэлекамунікацыйная сетка (не ўступаючага сусветным стандартам), планаваная пабудова магістралі хуткага руху з поўдня Польшчы ў прыбалтыйскія краіны, а таксама адкрыццё ў недалёкай будучыні авіятэрмінала — гэта важкія аргументы на карысць стварэння ў Беластоку буйнога гандлёвага цэнтра.

Непасрэдная блізкасць ёмістых рынкаў краін СНД уплывае на развіццё прыгранічнага супрацоўніцтва, выклікае зацікаўленасць замежнага капіталу стварэннем „камерцыйных плацдармаў” для ўваходу на ўсходнія рынкі.

Беластоцкае ваяводства, якое яшчэ зусім нядаўна лічылася перыферыяй краіны — сёння стала цэнтрам, якому удзяляюць увагу не толькі мясцовыя, але і замежныя бізнесмены.

Ваяводства з'яўляецца буйным сельскагаспадарчым і прамысловым рэгіёнам. На тэрыторыі плошчаю ў 10 055 кв. км, якая складае 3,7% агульнай плошчы краіны, сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 60%. Галоўныя культуры: бульба, жыта, авёс і грэчка.

Амаль 200 тыс. га займаюць сенажаці і пашы, якія з'яўляюцца асноўнай базай для развіцця жывёлагадоўлі, асабліва малочных кароў.

Прамысловасць развіваецца галоўным чынам у Беластоку і іншых гарадах ваяводства. Пераважаюць наступныя галіны:

— харчовая прамысловасць, заснавана на ўласнай сыравіне, якая складае амаль 40% агульнай прадукцыі;

— лёгкая прамысловасць, у асноўным тэкстыльная, якая мае тут звыш 100-гадовую традыцыю (ваўняная і баваўняная вытворчасць);

— дрэваапрацоўчая прамысловасць (лесапільная і мэблевая);

— электрамашынабудаванне.

Беластоцкі рэгіён — адзін з апошніх у Польшчы, а можа і ў Еўропе, з незабруджаным натуральным асяроддзем. Дзякуючы унікальным каштоўнасцям навакольнага асяроддзя, ваяводства ўключана ў праграму Зялёныя лёгкія Польшчы. Пейзажы, буйныя лясныя масівы, чыстыя паветра і вада, а таксама славутыя мясціны, багатая культура — ствараюць патэнцыяльныя магчымасці для развіцця турызму, асабліва спецыялізаванага.

Беласток, які раней называлі „Манчэстэрам Поўначы”, цяпер з'яўляецца буйным цэнтрам паўночна-ўсходняй Польшчы. Горад выконвае значную ролю ў галіне навукі, ахове здароўя і культуры. Тут знаходзіцца сем вышэйшых навуковых устаноў, у якіх моладзь набывае высокія кваліфікацыі ў розных галінах ведаў.

Ва ўсім свеце вядомыя дасягненні беластоцкай Медыцынскай акадэміі ў галіне гінекалогіі і акушэрства.

Тут таксама знаходзяцца буйныя культурныя ўстановы. Працуюць тэатры, філармонія, музеі, карцінныя галерэі, выдавецтвы, рэдакцыі газет і часопісаў, радыёвяшчальныя і тэлевізійныя станцыі.

Пералічваючы каштоўнасці рэгіёна нельга не ўспомніць выдатных людзей, высокакваліфікаваныя кадры і ёмісты рынак працы.

У Беластоцкім ваяводстве пражывае каля 700 тыс. жыхароў. Паводле ўзроставага складу гэта малады рэгіён, паколькі 60% насельніцтва — гэта людзі ва ўзросце да 40 гадоў. 70% людзей ва ўзросце 18—45 гадоў маюць прафесіянальную падрыхтоўку, а 10% — вышэйшую адукацыю.

Людскі патэнцыял і адукацыя кадраў — гэта шанц для прадпрымальніцтва і развіцця бізнесу.

Вялікае значэнне прыдаецца стварэнню ў ваяводстве гандлёва-выставачнага цэнтра, які можа паўплываць на развіццё гаспадарчага жыцця. Першыя крокі ўжо зроблены. Апошнім часам у горадзе адбыліся розныя кірмашы і выстаўкі, у тым ліку беластоцкія турыстычныя кірмашы, выстаўка „Будаўнічы форум”, кірмашы экалогіі і здаровых харчоў, сельскагаспадарчыя, аўтаматорныя, а таксама медыцынскага абсталявання.

Тэрміны мерапрыемстваў, якія адбываюцца ў сённяшні час, акрэслены ў спецыяльна распрацаваным „Календары кірмашоў”. Рэгулярна арганізаваныя кірмашы наведвае большая з кожным годам колькасць камерсантаў і вытворцаў, а таксама бізнесменаў з Усходу. Часта прыязджаюць да нас прадстаўнікі дзелавых колаў Менска, Вільні, Калінінграда і Гродна.

Несумненна, у стварэнні фундамента для „Варотаў на Усход” вялікае значэнне маюць спрыяльныя для развіцця эканамічных і гандлёвых сувязей дагаворы аб супрацоўніцтве, падпісаныя ўладамі беластоцкага рэгіёна і паасобных гарадоў.

Значэнне мае і той факт, што ў кожным камерцыйным мерапрыемстве ўдзельнічаюць прадстаўнікі Міністэрства знешнеэканамічнага супрацоўніцтва, Саюза польскіх рамеснікаў і іншых ведамстваў, у залежнасці ад характару кірмашу.

Беластоцкія кірмашы наведвалі высокія прадстаўнікі нашых усходніх гаспадарчых партнёраў, напрыклад, пасол Расейскай Федэрацыі ў Польшчы спадар Кашлеў, пасол Рэспублікі Літва спадар Юнсвічус, паўнамоцны міністр Рэспублікі Беларусь Мікалай Петрушкевіч.

Многія беластоцкія прадпрыемствы вядуць непасрэднае гаспадарчае супрацоўніцтва з Усходам, без пасрэднікаў, хаця таксама і яны прымаюць удзел у арганізаваных мерапрыемствах, паколькі гэта дае ім магчымасць пашыраць сувязі, знаёміцца з новымі контрагентамі і ўвайсці на новыя рынкі. Польскія бізнесмены таксама зацікаўлены ў набыцці сыравіны і паўфабрыкатаў для развіцця вытворчасці.

Але ўсё-такі нашыя патэнцыяльныя магчымасці супрацоўніцтва з усходнімі партнёрамі поўнасцю не выкарыстоўваюцца. Спатрэбіцца яшчэ многа часу, пакуль адновяцца страчаныя некалькі гадоў таму рынкі — ёмістыя і традыцыйныя.

Беластоцкія фірмы, якія займаюцца арганізацыяй выставачных мерапрыемстваў, павінны добра папрацаваць, каб Беласток сапраўды стаў ВАРОТАМІ НА УСХОД, каб гэты горад стаў сучасным камерцыйным цэнтрам, каб тут праходзілі выставачныя мерапрыемствы на еўрапейскім узроўні. У гэтым зацікаўлены як горад і рэгіён, так і прадпрымальнікі — польскія, усходнія і з Заходняй Еўропы. Асаблівую ўвагу трэба было б звярнуць на Італію, Нямеччыну і Швейцарыю, якія апошнім часам многа ўвагі прысвячаюць нашаму рэгіёну.

Пабудова ў Беластоцкім ваяводстве „моста” для пераходу праз „УСХОДНІЯ ВАРОТЫ” — гэта шанц стварыць камерцыйны цэнтр, вядомы ва ўсім свеце.

(*Gazeta Handlowa, nr 2/95/VI*)

# Радзіма — Родзіна

**Частка XXXIX**

Прадстаўляючы трактоўкі ды інтэрпрэтацыі беларусамі з усходняй Беласточчыны паняцця Радзімы, я ўжо характарызаваў погляды Сцяпана Багнюка на ідэю незалежнасці Беларусі. Сцяпан Багнюк, хаця і з пэўным скептыцызмам, адносіўся прыхільна да незалежнасці Беларусі. Прагну аднак сказаць, што не ўсе мае інфарматары падобным чынам трактавалі ідэю незалежнасці. Прыкладам непрыхільных адносін да суверэннасці Беларусі можа быць жыхар вёскі Бандары Фёдар Баршчэўскі (1905—1992), які не толькі скептычна, але амаль што варожа, ставіўся да распаду Савецкага Саюза і спроб стварэння незалежнай беларускай дзяржавы:

„Ты знаеш, што ты мяне вельмі здзіўляеш. Ты мне тут усё гаворыш: незалежнасць, незалежнасць. І гавоpыш, што ўжэ калі поўнасцю Беларусь будзе незалежным гасударствам, то ўжэ будзе вельмі добрэ і людзі будут жыці добрэ і шчасліво. Я табе скажу, мой пане, што ні знаю, хто табе такіх глупстваў напхаў у голаў. Дзівіт гэто міне тым больш, што ты ж хібо ўжэ пару сот разоў быў у гэтуй Беларусі і сам добрэ бачыў, як там усё выглядае. Я то там у Беларусі быў усяго толькі адзін раз. Тут, бачыш, пару лет таму былі арганізаваны такія прыгранічны устрэчы. То я тады ўзяў і пахаў у Бераставіцу. То там да ўсяго прыглядзіўся і прыслухаўся. Ну, а кроме гэтаго то ўжэ пару лет пачці што кажды дзень прут да нас сюды спекулянты з Беларусі і тут гандлюют таварамі. То я, бачыш, пачці што кажды дзень іду на аседле, бо яны там спекулюют і з імі гавару аб усім і аб гэтуй цэлуй незалежнасці таксамо. А кроме гэтаго ўсяго то я ўжэ лет дваццаць, калі ні больш, слухаю радзіва з Мінска. То бачыш, мой пане, хоць я ні ездзіў так як ты па цэлуй Беларусі, то ўсё ж такі тое сёе знаю і ведаю пра тую цэлу Беларусь. То я табе скажу так, што ты хоць і ездзіш у тую Беларусь, то вельмі мало панімаеш, што там робіцца. А робіцца там так, што ўсе беларусы ад малого да старого ні говорат па-беларуску, але шчэбечут па-руску. Ну, то як ты там будзеш рабіць беларускае гасударство, калі там ніхто і слухаці ні хочэ, каб гаварыці па-беларуску. То што ж гэто будзе за беларуске гасударство, калі ў ім цэлы народ рэжэ па-руску? Ты ж паглядзі на польске гасударство, чы на німецке, чы на французске. Ну яны, мой пане, гэты гасударствы таму польске, немецке чы французске, што там усе жонды і ўсе народы говорат або па-польску, або па-нямецку, або па-французску. А ў Беларусі як усе говорат? Говорат па-руску. Значыцца там ест і будзе гасударство руске, а ні беларуске. Ты ж знай, што беларуска зямля бедна і мора Беларусь ні мае. Малая Беларусь і бедна. А каждаму чалавекаві то хочацца вялікаго прастору. Ты ж толькі падумай. Сядае сабе ў поезд такі першы-лепшы беларус у Свіслачы або ў Ваўкавыску і прэ аж да Уладзівастока, або на Камчатку. Прэ і вухам ні вядзе! Говорыт сабе паруску і ўсе кругом яго панімают. То ж ён можэ паехаці і ў Казахстан і да Мардвы і да Самаеду і ўсюды для яго ест вяліка родзіна. Ну, то як ты дакажэш такому чалавекаві, што яму будзе намного лепш, калі ён будзе вярцецца па маленькуй Беларусі? Гэто табе, мой пане, ні жартачкі! А кроме гэтаго, то я табе скажу, рускі язык то гэто харошы язык, а наш беларускі то ён ні толькі ні харошы для чужых людзей, але навет і для самых беларусоў то ні вельмі. Ну, ты вазьмі і паглядзі на нашых людзей. То ж пачці што ўсе, як толькі пабылі ў горадзі то ўжэ прыехаўшы ў вёску пшэкают па польску. Ты не глядзі толькі на сябе, што ты моў говорыш па беларуску, але паслухай як говорыт бальшанство. Я то панімаю, мой пане, што можэ незалежнасць то яна добра для каждого народу, але як ты ее сілаю, чы як будзеш даваці беларусам. Яны гэтае незалежнасці ні носят у сэрцы, от бачыш, як яно ест”.

**Алесь Барскі**

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

*Барыс Руско*

## На сустрэчу ночы

Глуха на вуліцы,
паўзуць толькі цені
паміж ліхтарамі,
а конус святла
трымаецца вуліцы
так натуральна,
што месяц,
падціснуўшы хвост,
схаваўся за воблака,
а яно пырснула
жменяй снегу —
след маіх ботаў
ледзь яго прыкмеціў.
Заморгалі зоркі
з хвілiннай шчыліны,
а я плыву з вуліцай
у бязгучную ноч.

## Вымушаны вобраз

Помню я колер кіслароду,
было добра...
Праз зорчыну матэрыю
ўбачыў плечы неба,
а ўсё як на далоні,
без рэбусаў,
проста фігуры геаметрыі,
толькі такія вялікія —
аж гасне розуму адвага.

## Яшчэ пачакаю

Усё чакаю,
аж з'явіцца,
даспее
і ўпадзе ў далоні,
лёгкае,
пастэльнае,
мо з перавагай белі і блакіту,
такое людское,
такое прагнае,
нават імгненнае —
шчасце.

## Адзіноцтва

Шукаюць —
і знаходзяць пустку,
без дамоў на знаёмай вуліцы,
без паўслова на сцертым тратуары,
без паху з флакона вабнага,
без ценю з поўдня надзеі,
без рэха,
якое бярэ адзіноцтва.

## Сум

Сумую па чымсьці
неакрэсленым,
па чымсьці,
чаго не бачу,
не датыкаю,
а што побач мяне,
але не цень,
і не пейзаж са сну,
і не ўспамін з фатаграфіі.
Сумую па крыніцы жыцця,
такой патрэбнай,
як снеданне з паветра.

## Прачнуўшыся

Выхад са сну —
вяртанне з далечы,
такіх дарог няма на яве.
Ты з іншых карцін,
і з іншых асацыяцый,
і з іншых сполахаў,
і музыка іграла табе не зямная,
ты быў крылатым матылём
і каменем дарожным,
быў ты без цела
і з целам згорнутым у рулон —
і радасці, і смутку,
прастора-час дзе
ад выпадку залежыць,
як ліст, што ўпаў вясной
на яшчарку ля студні.



# MIĘDZYNARODOWE TARGI BIAŁOSTOCKIE

# МІЖНАРОДНЫ БЕЛАСТОЦКІ КІРМАШ

# BIALYSTOK INTERNATIONAL FAIR

# МЕЖДУНАРОДНАЯ БЕЛОСТОКСКАЯ ЯРМАРКА

**15-101 Białystok, ul. Jurowiecka 21, tel. (085) 75-19-60, 54-52-39, fax (085) 75-19-60**
**15-095 Białystok, ul. M. Skłodowskiej-Curie 3, tel. (085) 44-70-78, 44-70-79**

## ЗАПРАШЭННЕ НА КІРМАШ

„БЯЛЬ-ЭКСПА” дзейнічае на аснове польскага гандлёвага права. Сядзібай кірмашоў з’яўляецца Беласток — найбольшы горад паўночна-ўсходняй Польшчы, вялікі прамысловы, гандлёвы і навуковы цэнтр. Выгаднае распалажэнне горада, разбудаваная інфраструктура, а перш за ўсё эканамічны патэнцыял, у натуральны спосаб спрыяюць наладжванню гандлёвых кантактаў. На нашыя мерапрыемствы запрашаем фірмы з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы і, вядома, з Польшчы.

Нашай дзейнасцю мы ў далейшым хочам спрыяць эканамічнаму супрацоўніцтву Польшчы і Беларусі. Ствараем прэферэнцыйныя ўмовы для беларускіх фірм, якія жадаюць удзельнічаць у кірмашах „БЯЛЬ-ЭКСПА”. Кожны ўдзельнік нашых кірмашоў, незалежна ад яго вытворчага ці эканамічнага (фінансавага) патэнцыялу, трактуецца нароўні з іншымі партнёрамі. Малыя і сярэднія фірмы, прымаючы ўдзел у нашых мерапрыемствах, могуць паводле аднолькавых прынцыпаў спаборнічаць з вялікімі прадпрыемствамі за заваяванне годнага месца на рынку.

Мы асабліва спрыяем тым фірмам, якія ўпершыню прымаюць удзел у Міжнародным кірмашы. З гэтым часта звязана праблема пераадолення экспанентамі-пачаткоўцамі свайго роду псіхалагічнага бар’ера. Канфрантацыя заўсёды забавязвае — і мы гэта разумеем.

Неабходным з’яўляецца пераломванне ў польска-беларускіх эканамічных кантактах не толькі псіхалагічных, але і юрыдычных, арганізацыйных і тэхнічных бар’ер, напрыклад, „вузкіх” гранічных пераходаў.

Дзейнасць нашай фірмы ў нейкай ступені спрыяе пашырэнню суседскіх кантактаў. Мы верым, што нашая прапанова сустрэнецца з зацікаўленасцю дзяржаўных і каапературных прадпрыемстваў, а таксама прыватных прадпрымальнікаў з Беларусі.

Усіх сардэчна запрашаем на нашыя гандлёвыя мерапрыемствы ў 1996 годзе. Ніжэй друкуем каляндар кірмашоў да канца 1996 г. і дэталёвыя ўмовы ўдзелу беларускіх фірм у такіх мерапрыемствах.

ДЫРЭКТАР
д-р Мікалай Козак

## Каляндар кірмашовых мерапрыемстваў 1996 г.

| | |
|---|---|
| 24—26 студзеня | IV Прадуктовы кірмаш. |
| 21—23 лютага | IV Кірмаш будаўніцтва і афармлення інтэр’ера „Дом і навакольнае асяроддзе”. |
| 20—22 сакавіка | III Кірмаш касметыкі, бытавой хіміі і ўпакоўкі. |
| 17—19 красавіка | IV Спецыялізаваны кірмаш: тканіны, вопратка, абутак. |
| 3—5 мая | II Кірмаш кнігі і выданняў. |
| 8—10 мая | II Кірмаш марожанага, напояў, піва, віна і спіртнога. |
| 12—14 чэрвеня | Кірмаш „Лета’96”. |
| 4—6 верасня | V Кірмаш будаўніцтва і афармлення інтэр’ера „Дом і інтэр’ер”. |
| 9—11 кастрычніка | VII Спецыялізаваны кірмаш: тканіны, вопратка, абутак. |
| 6—8 лістапада | VIII Спецыялізаваны кірмаш „Каляды’96”. |
| 13—15 снежня | III Святочны кірмаш „Ёлка’96”. |

**Сардэчна запрашаем!**

## Календарь ярмарочных мероприятий 1996 г.

| | |
|---|---|
| 24—26 января | IV Продовольственная ярмарка. |
| 21—23 февраля | IV Ярмарка строительства и оформления интерьера „Дом и окружающая среда”. |
| 20—22 марта | III Ярмарка косметики, бытовой химии и упаковок. |
| 17—19 апреля | VI Специализированная ярмарка: ткани, одежда, обувь. |
| 3—5 мая | II Ярмарка книги и изданий. |
| 8—10 мая | II Ярмарка мороженого, напитков, пива, вина и спиртного. |
| 12—14 июня | Ярмарка „Лето’96”. |
| 4—6 сентября | V Ярмарка строительства и оформления интерьера „Всё для дома”. |
| 9—11 октября | VII Специализировання ярмарка: ткани, одежда, обувь. |
| 6—8 ноября | VIII Специализированная рождественская ярмарка „Сочельник’96”. |
| 13—15 декабря | III Праздничная ярмарка „Ёлка’96”. |

**Сердечно приглашаем!**

## ІНФАРМАЦЫЯ

**аб умовах удзелу ў Кірмашы „БЯЛЬ-ЭКСПА” беларускіх фірм**

Зыходзячы з прадпасылкі, што развіццё польска-беларускага эканамічнага супрацоўніцтва і размеры таваразвароту ў значнай меры залежаць ад умоў, ствараемых па абодвух баках мяжы — Міжнародны Кірмаш „БЯЛЬ-ЭКСПА” вырашыў да канца 1996 года прымяняць прэферэнцыйныя цэны для фірм з Рэспублікі Беларусь, якія прымаюць удзел у нашых мерапрыемствах.

Прэферэнцыі гэтыя датычаць перш за ўсё цэн, якія плацяць беларускія фірмы за стандартны выставачны ўчастак (плошчай у 6 кв. м) на Кірмашы і іншых аблягчэнняў, зробленых арганізатарамі ў карысць экспанентаў з Беларусі.

І так:

1. Цана за 1 кв. м стандартнага выставачнага ўчастка (агульнай плошчай у 6 кв. м) складае 12 дол. ЗША, г.зн. 12 дол. ЗША х 6 кв. м = 72 дол. ЗША.

2. За чарговыя два метры выставачнага ўчастка: па 25 долараў ЗША, г.зн. цана за ўчастак плошчай у 8 кв. м = 72 дол. ЗША за 6 кв. м + 2 кв. м х 25 дол. ЗША = 50 дол. ЗША; РАЗАМ = 122 дол. ЗША.

3. Толькі за кожны наступны кв. метр выставачнага ўчастка — звыш 8 — аплата складае такую ж суму, як і для іншых удзельнікаў, г.зн. каля 50 дол. ЗША. Напрыклад, выставачны ўчастак плошчай у 10 кв. м каштуе:

першыя 6 кв. м = 72 дол. ЗША
наступныя 2 кв. м = 50 дол. ЗША
наступныя 2 кв. м = 100 дол. ЗША
-------------------------------
Разам: 222 дол. ЗША

4. У рамках гэтай цаны арганізатар перадае ў карыстанне поўнасцю абсталяваны выставачны ўчастак, у тым ліку бясплатныя неабходныя прылады.

5. Беларускім фірмам гарантуем бясплатнае занясенне ў каталог выстаўкі.

6. За кошт арганізатара Кірмашу рэдакцыі газет і радыёвяшчання, якія супрацоўнічаюць з „БЯЛЬ-ЭКСПА”, перададуць інфармацыю аб беларускіх фірмах — удзельніках Кірмашу, разам з іх афертай.

7. Арганізатар Кірмашу мае магчымасць забяспечыць беларускім фірмам кантакты з адпаведнымі прадстаўнікамі польскіх фірм.

8. Для фірм, якія ўпершыню ўдзельнічаюць у нашых мерапрыемствах, мы гатовы пайсці на значныя ўступкі, у тым ліку і ў справе цэн на нашыя паслугі.

Перадаючы гэтую інфармацыю, мы выказваем пераканане, што прапанаваныя „БЯЛЬ-ЭКСПА” ўмовы ўдзельніцтва ў Кірмашы з’яўляюцца дастаткова прывабнай прапановай.

## ИНФОРМАЦИЯ

**об условиях участия в Ярмарке „БИАЛЬ-ЭКСПО” белорусских фирм**

Исходя из принципа, что развитие польско-белорусского экономического сотрудничества и размеры товарообмена в значительной степени зависят от условий, создаваемых по обеих сторонах границы — Международная Ярмарка „БИАЛЬ-ЭКСПО” решила до конца 1996 года применять преференциальные цены для фирм с Республики Беларусь, участвующих в наших мероприятиях.

Преференции эти касаются, в первую очередь, цен, которые платят белорусские фирмы за стандартный выставочный участок (площадью в 6 кв. м) на Ярмарке, и других усовершенствований, сделанных организатором в пользу экспонентов с Беларуси.

И так:

1. Цена за 1 кв. м стандартного выставочного участка (обшей площадью в 6 кв. м) составляет 12 долл. США, т.е. 12 долл. США х 6 кв. м = 72 долл. США.

2. За следующие два метра выставочного участка: по 25 долл. США, т.е.: цена за участок площадью в 8 кв. м = 72 долл. США за 6 кв. м + 2 кв. м х 25 долл. США; ВСЕГО = 122 долл. США.

3. Только за каждый следующий кв. метр выставочного участка — свыше 8 — требуется оплата как и от других участников, т.е. около 50 долл. США. Например, выставочный участок площадью в 10 кв. м стоит:

первые 6 кв. м = 72 долл. США
следующие 2 кв. м = 50 долл. США
следующие 2 кв. м = 100 долл. США
-------------------------------
Итого: 222 долл. США

4. В пределах этой цены организатор представляет экспоненту полностью оборудованный выставочный участок, в том числе и бесплатное необходимое оснащение.

5. Белорусским фирмам гарантируем бесплатное занесение в каталог выставки.

6. За счёт организатора Ярмарки редакции газет и радиовещания, сотрудничающие с „БИАЛЬ-ЭКСПО”, представят информацию об белорусских фирмах — участниках Ярмарки, вместе с их офертой.

7. Организатор Ярмарки в состоянии обеспечить белорусским фирмам контакты с соответствующими представителями польских фирм.

8. Для фирм впервые участвующих в наших мероприятиях, мы готовы пойти на значительные уступки, в том числе и в деле предлагаемых цен на нашие услуги.

Передавая данную информацию, мы убеждены в том, что предлагаемые „БИАЛЬ-ЭКСПО” условия участия в Ярмарке являются достаточно привлекательным предложением.

## Позірк у мінулае

**21 студзеня**
1793 г. — кароль Францыі Луі XVI пакараны смерцю на гільяціне.
1855 г. — нар. Джон Браўнінг, амерыканскі канструктар аўтаматычнага ружжа.
1924 г. — памёр Уладзімір Ленін, заснавальнік СССР.
1941 г. — нар. Пласіда Дамінга, іспанскі тэнар.
**22 студзеня**
1517 г. — туркі занялі Каір.
1788 г. — нар. Джордж Байран, англійскі паэт.
1876 г. — памерла брытанская каралева Вікторыя. Канец віктарыянскай эпохі.
1892 г. — нар. Марсель Дасо, французскі авіяканструктар.
1905 г. — крывавая нядзеля ў Санкт-Пецярбургу.
1970 г. — Боінг-747, *Jumbo Jet*, пачаў рэгулярныя рэйсы на трасе Нью-Йорк—Лондан.
**23 студзеня**
1793 г. — другі падзел Польшчы між Расеяй і Прусіяй.
1898 г. — нар. Сяргей Эйзенштэйн, савецкі кінарэжысёр.
1960 г. — швейцарац Жак Пікар і амерыканец Доналд Уэлш на глыбіннай лодцы *Trieste* апусціліся на глыбіню 10 916 метраў у Марыянскай упадзіне.
**24 студзеня**
41 г. — пам. Гай Юлій Цэзар, рымскі кесар.
1862 г. — Аляксандру Іон Куза, князь Малдавіі і Валахіі аб'явіў аб'яднанне абодвух княстваў у адно, названае Румыніяй.
1961 г. — нар. Настасся Кінскі, нямецкая актрыса.
1965 г. — памёр Уінстан Чэрчыль, англійскі палітык.
**25 студзеня**
1924 г. — адкрыццё першых зімніх алімпійскіх гульняў у Шамані.
1949 г. — у Маскве створаны Саюз эканамічнай узаемадапамогі.
1971 г. — Ідзі Амін узяў уладу ва Угандзе.
1981 г. — завяршэнне суда над „бандай чацвярых" у Кітаі.
**26 студзеня**
1799 г. — брытанскія ссыльныя засноўваюць Сідней, першае еўрапейскае пасяленне ў Аўстраліі.
**27 студзеня**
1756 г. — нар. Вольфганг Амадэй Моцарт, аўстрыйскі кампазітар.
1945 г. — вызваленне канцлагера Аўшвіц, дзе загінула 3—4 млн. яўрэяў.
1983 г. — памёр Луі дэ Фюн, французскі акцёр.

**(Ш)**

## ПАРНАСІК

### Наш крык жыцця

Жыць —
Не вяселле адбыць;
Гэта барацьба
І малацьба,
Змаганне, каб пераЖыць
І дарогу адкрыць,
Якая вядзе ў тупік.
Гэта наш крык,
Нямы і адчайны,
І банальны.
Ці мы разважаем?
Сябе мала знаем...
Нашы думкі — гэта я,
Смяротная змяя;
Укус у самога сябе.
І як не быць бядзе?
Навокал ілюзія і абман —
Без Бога не ачысцім сваіх ран.

**Мікалай Панфілюк**

### Не падай духам

Не падай духам, чалавек!
Няма ж табе яшчэ паўвеку.
Не думай пра свае болі,
Бо хвароба яшчэ больш уколе.

Маеш ногі — хадзі.
Маеш рукі — рабі.
Маеш дар мовы — гавары.
Маеш школу — навучай.
Маеш слых — разумнага слухай.
Маеш голас — песні спявай.
Не кажы „Нічога не маю!"
Не кажы „Нічога не ўмею!"

Не падай духам, а сябе пазнай.
Тады знойдзеш сябе. І сябе іншым дай.

**Іда Кавалевіч**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 570. Мікалай Кішкель (Беласток) | — 50 зл. |
| 4 571. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 20 зл. |
| 4 572. Галіна Маліш (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 573. Іаланта Вішнеўская (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 574. Уладзімір Баўтрамюк (Гайнаўка) | — 10 зл. |
| 4 575. Ілья Агіевіч (Орля) | — 30 зл. |
| 4 576. Ян Карпюк (Забагонне) | — 10 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што я недзе, як кажуць, на выездзе. Не ведаю, ці гэта ў нас, ці заграніцай. Невядома таксама, ці гэта нейкі маладзёжны лагер, ці мо санаторый. Ведаю толькі, што ўсе ўжо сабраліся, каб ехаць дахаты, а я яшчэ не запакавала сваіх рэчаў. Быццам мы жывем у нейкіх павільёнчыках, а мае рэчы засталіся ў школе, зложаныя ў адным пакоі.

Уначы я іду ў будынак гэтай вялікай школы. У кутку аднаго пакоя ляжаць мае рэчы — вопратка, шмат кніжак. Ніхто іх не ўкраў, а я так баялася, бо школу нанач ніхто не замыкае.

Я пачынаю разглядаць новыя сукенкі, якія тут купіла, прымерваць іх. Побач са мною паяўляецца мая сястра — нябожчыца. Мы разам з ёю захапляемся гэтай вопраткай. Пасля ідзем з ёю на забаву ў знаёмы нам клуб. Заўважаем, што за намі ідзе наш бацька-нябожчык. Мы ідзем хутчэй, а бацька ледзь паспявае за намі.

І вось ужо я не бачу сваёй сястры, а быццам іду адна. Падыходжу да клуба, а каля яго, збоку на сходах стаяць нейкія жулікі, якія не даюць мне прайсці. Нейк мне ўдалося прабіцца туды. А бацька яшчэ ідзе.

Заходжу наверх, у гэты клуб, а там — вялізная зала з касамі, як на нейкім вакзале. Непакоюся, чаму так доўга не ідзе бацька. Чакаю. Раптам бачу, што ідзе. Пабіты тымі хуліганамі, з сінякамі. Мне яго вельмі шкада. Яго так проста, як мяне, не прапусцілі.

Бацька падыходзіць да адной з кас, вымае дакументы, хоча купіць білет (за мяжу?), і раптам я бачу, што бацька робіцца нежывы, быццам прыклеены да акенца, як нейкі плакат. Мне робіцца страшна і цяжка.

**Агата**

Агата! Твой сон прадвяшчае, што будзеш мець вялікія непрыемнасці, праблемы. Магчыма, будуць яны звязаны з нейкай стратай, ці хваробай.

**Астрон**

## ВІРАВАНКА

1. упарадкаваны пералік, 2. мястэчка на Віцебшчыне; таксама на Беласточчыне, 3. маёмасць, 4. бітва, 5. яе каралём Хуан Карлас, а каралевай Сафія, 6. напітак з сокам лімона, 7. страляе мінамі, 8. ёмістасць, 9. сузор'е, на фоне якога Сонца знаходзіцца ў лістападзе і снежні, 10. ласунак, які вырабляецца з какавы і цукру, 11. белавежская рэчка, 12. перагарода з некалькіх накрыж збітых калоў.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 49 н-ра:** Пружаны, пластыр, самалёт, малаток, крумкач, кавалер, Волагда, вавёрка, макрыца, аграном, насмарк, пражора.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу з Навінаў-Вялікіх і Аляксандру Дабчынскаму з Беластока.**

## Беласток у дэмаграфічным плане

У мінулым годзе, так як і ў папярэднім, жыхары Беластока давалі дзецям перш-наперш звычайныя імёны ды шыракавядомыя, без вышукоўвання нейкіх экзатычных, чужамоўных. Найчасцей паўтараліся Агнешка і Матэвуш.

У 1995 годзе ў беластоцкім ЗАГсе зарэгістравалі 4 585 нараджэнняў. Апрача Агнешкі і Кінгі папулярныя былі Паўліны, Караліны, Магдаліны і Клаўдзіі. Найчасцей паўтараючыміся мужчынскімі імёнамі былі: Матэвуш, Мацей, Павел, Пятро, Міхась, Каміль і Давід.

**(яц)**

Каляндар прыроды
## Студзень

Студзень, кажуць у народзе, — завадатар зімы. Студзень — году пачатак, а зімы — сярэдзіна. У студзені пяюць мяцеліцы. Час ад часу можа падаць свой голас і басавіты гром. Але гэта бывае ў нашым геаграфічным поясе рэдка.

Сапраўды, хаця студзень зямлю студзіць, дык надзею на вясну грэе. Жыццё ў прыродзе не спыняецца. З надыходам халадоў збіраюцца ў невялікія статкі ласі, кормяцца маладымі парасткамі, карой асіны, вярбы, крушыны і чаромхі, выкопваюць з-пад снегу леташнюю траву, мох, карэньчыкі дрэў. Барсукі, янотападобныя сабакі, вожыкі і кажаны зараз у глыбокай спячцы. Застаюцца актыўнымі гарнастай, выдры, андатры, бабры і мышы — хто палюе, хто ўжывае назапашаны корм.

Сабраўшыся ў гайні, няспынна рухаюцца галодныя ваўкі. Пакідаюць мудрагелістыя сляды на снезе зайцы, лісы, дзікі. У лясах зімуюць сініцы, пішчухі, дзятлы. З тундры да нас прылятаюць госці — зімовыя вандроўнікі: белыя совы, пуначкі і касматаногія канюкі. У пошуках корму да чалавечага жылля набліжаюцца амялушкі, гілі, шчыглы, чыжы, чачоткі і аўсянкі. У канцы студзеня пачынаюць віць гнёзды крыжадзюбы — адзіныя з птушак, што гняздуюцца зімой, не баючыся выводзіць птушанят у моцныя маразы.

Дні студзеня ўносяць ажыўленне ў зімовае птушынае царства. Прыкметна ажываюць, падаючы свае галасы, шэрыя вароны, а чорныя спраўляюць ужо шлюбныя гульні. Верабʼі — тыя нават часта наладжваюць бойкі.

Пад лёдам рэк і азёр таксама працягваецца жыццё: не спяць плотка, лешч, акунь, а мянтуз рыхтуецца ў гэты час да нерасту.

Пад снегам застаюцца зялёнымі кусцікі брусьнічніку, журавіны, гірлянды дзеразы і іншыя расліны.

*(яц)*

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міра-новіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МЫ ПАЧУЛІ

На вясельных паправінах бацька кажа:
— Той, хто дапаможа заўтра адвозіць сталы, добра вып'е.
— Я абавязкова дапамагу! — адразу ж адгукаецца Міша.
— Хлусіш ты ўсё, — адказвае гаспадар, — ты ж не дапамог іх прывезці і паставіць.
— Чаму гэта я не дапамог? Што я тады рабіў? — на хвіліну задумоўваецца Міша. — Ага, успомніў! Збіраў збожжа з поля. Эх, праз яго такую аказію страціў!

* * *

— За каго ты ідзеш замуж? — пытаюцца сяброўкі Марысю.
— Як гэта за каго? За хлопца, вядома. Няўжо за дзяўчыну!?

* * *

— Скажы, бабуля, а адкуль дзеці бяруцца? — хітра пытае старую Тэклю ўнук Войтэк.
— Вядома адкуль: іх бусел праз комін кідае. Я ж табе ўжо казала.
— Не пляці, бабуля. Узімку буслы не лётаюць!..

* * *

— Чула я, што твая дачка шлюбам бярэцца. А дзе будуць жыць маладыя пасля вяселля? — пытаецца суседка Ліду.
— Як гэта дзе? Дзе ноч іх заспее, там і будуць!

* * *

— Ну, як табе жывецца з жонкаю? — пытаюцца сябры новаспечанага мужа.
— Цікава жывецца, — адказвае той.
— І што ж цікавага?
— Раніцою з ёю звычайна сваруся, а ўвечары прашу прабачэння.

**Аўрора**

Мал. Аляксандра Каршакевіча

# НІЎКА

Мал. Леаніда Разладава

## Колькі праўд на свеце?

У Парахневіча няма ворагаў, з кожным ён ладзіць, кожны яго паважае...
Завітаў да яго сусед Мікіта:
— Няма ніякай управы на гэтага Таўкача. Скаціну распусціў... Свіння ягоная ўчора залезла ў мой агарод, патаптала грады.
— Так, так, — ківае галавой Парахневіч. — Непарадак. Праўду кажаш...
На другі дзень сустрэў Парахневіча Таўкач.
— Гэты лайдак Мікіта не можа як след зрабіць агароджу для град. Ва ўсіх, як у людзей, а ў яго... Ці магу я ўпільнаваць парсюка ці курку...
— Канечне!.. Твая праўда.
Жонка Парахневіча чула гэта ўсё і не вытрымала:
— З усімі ты пагаджаешся, усім падтакваеш...
— Так, так... І твая праўда, і ты правільна кажаш...

**Ф. Васілевіч**

## Фрашкі

### Што спераду, што ззаду...

Вось так жыццё
Сабе ідзе —
З напасцямі
Не размінуцца.
Наперад
Боязна глядзець,
Назад жа
Брыдка азірнуцца.

### Хор

Суседу Восіпу
Дакладвае Рыгор:
— Я запісаўся
У мужчынскі хор.
Вядзём за чаркаю
Штовечара дэбаты...
— Калі ж спяваеце?
— А як ідзём дахаты.

### Папрок

Калі аднойчы
Сварка ў іх зайшла,
Маёра жонка
Гэтак папракала:
— Каб за цябе
У свой час я
не пайшла —
Была б ужо
Удавою генерала.

**М. Мірановіч**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

**"Даўцiпы" Андрэя Гаўрылюка**

Гутараць дзве маладыя жонкі:
— Ці варыш свайму мужу абеды?
— Рэдка; толькі тады, калі пасварымся і хачу яму дакучыць.

* * *

Пан Новак паехаў у санаторый. Па двух тыднях скончыліся яму грошы і пасылае тэлеграму жонцы: „Прышлі 500 тысяч, то мне прадоўжаць".
На другі дзень атрымоўвае мільён злотаў з прыпіскай: „Няхай табе прадоўжаць і пашыраць".

* * *

Сустракаюцца два сябры:
— Ты што, не ходзіш ужо з гэтай даўганогай бландзінкай?
— Не, лекар мне забараніў.
— А што, ты хворы?
— Не, гэты лекар — яе муж.

* * *

Коля вярнуўся з санаторыя і першую ноч усё паўтараў праз сон: „Аня, Аня, Анечка!" Раніцай жонка пытае яго, што гэта за Анечка.
— Каля санаторыя была ферма, — адказвае Коля, — а там была прыгожая кабыла з такою клічкай. Карміў яе хлебам — відаць яна мне і прыснілася.
Некалькі дзён пазней вяртаецца ён з працы і бачыць на стале ліст у разарваным канверце.
— Ад каго гэта? — пытае жонку.
— Гэта кабыла табе напісала.

* * *

Сустрэліся два сябры. Адзін з іх наракае, што не ўмее падчапляць дзяўчат. Другі адказаў, што ён у гэтых справах эксперт і ахвотна яго навучыць, як гэта рабіць. Пайшлі ў кавярню, селі за столік. Побач із сядзіць прыгожая дзяўчына. Эксперт выняў картачку, напісаў: „Пані мае прыгожую ножку" і падаў дзяўчыне. Тая адпісала: „Другую таксама". „То спаткаемся заўтра паміж першай і другай", запрапанаваў ён на паперцы. Дзяўчына кіўнула галавою.
Мінула некалькі тыдняў і нясмелы юнак рашыў самастойна папрабаваць шчасця. Пайшоў у кавярню, сеў за столік, пабачыў прыгожую дзяўчыну, напісаў на картачцы: „Пані мае прыгожую ножку" і паслаў дзяўчыне. „Другую таксама", адпісала яна. „То спаткаемся заўтра паміж трэцяй і чацвёртай", запрапанаваў. „Паміж трэцяй і чацвёртай можаш спатыкацца з каровай", адпісала яна.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Маю сяброўку лупіць муж. Здаецца, не сярэдневякоўе цяпер, і не жывем мы ў Азіі ці ў Афрыцы, хаця імкнемся ў Еўропу, а вось ёсць так, як ёсць. Я нічога не разумею. Усяго некалькі гадоў таму яны пажаніліся і, як мне вядома, з вялікага кахання. Яго бацькі не згаджаліся доўга на гэты шлюб: для іх мая сяброўка была „з занадта простай сям'і", а на дадатак „z Polski B".

Пазнаёміліся яны ў маладзёжным спартыўным лагеры. Адразу пачалося каханне. Бяда ў тым, што хлопец жыў у дакладна супрацьлеглым канцы Польшчы. Сустракаліся, ездзілі адно да другога, як шалёныя. Калісь нават прыляцеў да яе самалётам. Але бацькі хлопца былі няўмольныя, а хлопец канчаў вучобу ў тэхнікуме. Калі б пайшлі на сваё, дык нават жыць не мелі б за што, бо і яна яшчэ вучылася.

Узялі шлюб толькі тады, калі мая сяброўка абвясціла яго бацькам, што зацяжарыла. Як бачым, на ўсё ёсць метад. Сяброўка пасля шлюбу адразу выехала ад нас да мужа. Там шчаслівая нарадзіла дзіця і жыла ў сям'і яе мужа. „Куды ж яны пойдуць?" — сказала яе свякруха. Рэгулярна пісала мне лісты ўвесь час, а калі нарадзіла дзіця, прыехала з ім на першых паўгода да мамы. Я ўцешылася, што ізноў мая сяброўка жыве паблізу нас. Муж яе прыязджаў рэгулярна два разы ў месяц. Большага заангажавання і пачуцця я не сустрэла.

Сяброўка, аднак, падгадаваўшы дзіця ў сваіх бацькоў, вярнулася да мужа. Яе лісты прыходзілі часта, як і раней, але станавіліся ўсё больш трывожныя. Свёкар не любіў ні яе, ні ўнука. Не дазваляў жонцы дакрануцца да дзіцяці. Нельга было ні ў чымсьці дапамагчы нявестцы, ні пераапрануць ці накарміць дзіця. А што ўжо гаварыць пра тое, каб яны хоць раз папільнавалі тое дзіцятка! А маладым жа хацелася кудысьці выйсці...

Аднойчы мая сяброўка неасцярожна сказала мужу штосьці пра яго бацьку. Ён так узлаваўся, што першы раз удырыў яе. Быў вельмі раздражнены ўсёй гэтай сітуацыяй. Усё сам бачыў і не мог дараваць бацьку, што даслоўна здзекваўся над імі за тое, што нібы „хітрыкамі" ўзялі шлюб. Вытыкаў ім, што жывуць у іхнім доме (харчаваліся за сваё, бо ўжо яе муж працаваў), што такая сітуацыя давяла яго да хваробы і г.д. А з усяго гэтага дасталася маёй сяброўцы.

Пасля, праўда, перапрашаў яе, маліў, каб даравала яму, але папусціла яму раз і... пачалося. Бывала, як толькі знервуецца, так і пайшлі ў ход кулакі. Яму палягчэе, а яна не можа спаць па начах. Абяцаў, што больш такое не паўторыцца, станавіўся нават на калені, абцалоўваў яе па руках і нагах, але засеў у ім звер. Зрэшты, сяброўку ж там ніхто не бараніў нават тады, калі пры людзях ударыў яе па твары.

Колькі ж можна было цярпець! Узяла яна свайго двухгадовага сыночка і вярнулася да бацькоў. Расказала ім пра ўсё. Маці, сама не свая, намовіла мужа, каб за ўсе жыццёвыя ашчаднасці купіць дачцэ кватэру, ды каб жыла, як чалавек. Думала, што зяць яе не знойдзе, бо прапісана была яшчэ ў іх. Ды, зрэшты, ніхто не спадзяваўся, што такі „бандыт" будзе яе шукаць.

Але куды там! Яна сама пазваніла мужу і, шчаслівая, паведаміла яму, што ўжо мае сваю кватэру. „Прыязджай на Сільвестра!" — запрасіла. Прыехаў адразу. Цалуюцца, мілуюцца. Маці яе злосная, не хоча яго бачыць, бо і ёй дачка пісала „крывавыя" лісты. Ды і я такога кахання не разумею. Нейкая паталогія, ці што?

**Марыля**

Марыля! Калі ён яе „лупіў", дык ёй больш хацелася, каб кахаў яе. Калі аднойчы рашылася выехаць, дык зразумела, як не хапае ёй яе каханага. Тут ужо маці нічога не зробіць — будзе злавацца ці не. Відаць, што яе пачуццё мацнейшае за здаровы розум, ды і ён кахае яе, хаця пускае ў ход кулакі. Павінен перабрацца сюды, можа без бацькоў запануе між імі згода.

**Сэрцайка**